# Прымяненьнем заатэхнікі павялічылі ўдой малака

*(Уваравіцкі раён)*

У калгасе імя Будзённага, Крыўскага сельсавету, у 1931 годзе ў красавіку арганізавалася МТФ з агульным пагалоўем стада ў 100 галоў. Перад фэрмай стаяла задача палепшыць якасьць жывёлы, падвоіць стада фэрмы, дабіцца павышэньня ўдойнасьці і здаць дзяржаве ня менш 70 проц. валавой прадукцыі малака. МТФ імя Будзённага на 25 мая г. г. мае кароў 107, быкоў 6, нецялей 22, цялят ад 1—2 гадоў 63, цялят ацёлу 1932 г. 150 галоў, а ўсяго 348 галоў.

Патраеньня стада фэрма дабілася дзякуючы бальшавіцкай барацьбе за камплектаваньне стада. Фэрма заключыла дагавор па сацспаборніцтву з МТФ калгасу „Чырвоны шлях" на лепшае выкананьне задач, пастаўленых перад фэрмай у 1932 годзе. На МТФ ажыцьцяўляюцца 6 умоў т. Сталіна. Ліквідавана абязьлічка. Кожная даярка, кожны даглядчык, пастух і цялятніца ведаюць групу сваіх кароў і цялят. Шляхам ліквідацыі абязьлічкі ў разьмеркаваньні кармоў, фэрма дабілася поўнай эканоміі іх, давяла страты кармоў да нуля. З'эканомленая частка кармоў перадана як бронь на веснавую сяўбу. Брыгада на МТФ сталая, большая частка калгасьнікаў працуе па некалькі год і ўжо маюць добрую практыку. Для падняцьця прадукцыйнасьці жывёлы на МТФ уведзена зьдзельшчына. За кожнай цялятніцай замацавана па 25 цялят з жывой вагай пры ацёле 15 *кг;* яны за дзень павінны даць прырост 5,5 *кг*, кілё прыросту ацэньваецца 0,18 працадня. За перавыкананьне на 10 проц. ёй дадаецца 0,15 працадня і за перавыкананьне нормы на 20 проц. дадаецца 0,25 працадня. Даярка доіць 20 кароў і павінна надаіць 30 *л* малака ад усіх кароў. 1 літр малака ацэньваецца ў 0,033 працадня, за перавыкананьне нормы дадаецца тая-ж надбаўка, што і цялятніцам.

На МТФ заведзен вытворчы вучот па фэрмах, установленых Мясамалакацэнтрам.

Для абгаварэньня прынцыповых пытаньняў працы фэрмы, склікаюцца вытворчыя нарады брыгады, якія дапамагаюць вырашаць гэтыя пытаньні. Насьценгазэта, ствараючы грамадзкую думку вакол таго ці іншага пытаньня, значна дапамагае абгаварэньню і працы фэрмы.

МТФ імя Будзённага першая ўзялася за правядзеньне заамінімуму. На фэрме ўведзен унутраны распарадак, якім строга прадугледжаны час выкананьня асобных работ, як даеньне, кармленьне, паеньне. Перад даеньнем кожная даярка робіць абмыўку і абцірку вымя каровы. Кармленьне жывёлы праводзіцца групамі, па ўстаноўленых нормах. Хворая жывёла трымалася ў ізалятарах, у сонечныя дні выганялася на прагулку.

Дзякуючы прымяненьню заатэхнікі, ліквідацыі абязьлічкі і ўраўнілаўкі, ударніцтву і сацспаборніцтву, фэрма дабілася бліскучых вынікаў у сваёй рабоце. Удой (усіх кароў новацельных і перадоек) на фэрме (бяз дачы канцэнтраваных кармоў) у зімовы час павялічыўся ў 2 разы. Фэрмай да 20 мая здана дзяржаве таварнага малака 96,44 *цнт.* На летні час брыгада абавязалася падвоіць выхад таварнай прадукцыі жывёлы, захаваўшы высокую якасьць прадукта.

Для праверкі дагавору з спаборнічаючай МТФ калгасу „Чырвоны шлях", брыгада МТФ імя Будзённага выяжджала ў спаборнічаючую МТФ, дзе правялі абмен вопытам работы фэрм.

На МТФ імя Будзённага ёсьць ударнікі, якія сваёй работай даюць прыклад ня толькі для работнікаў сваёй МТФ, але і для акаляючых.

У 1932 годзе на фэрме павінны пабудаваць новы кароўнік, цялятнік і сіласную вежу. Да будаўніцтва кароўніка і цялятніка ўжо прыступілі (выкананы плян будаўніцтва на 25 проц.). Сіласную вежу Белбудцэнтр павінен даслаць у гатовым (разабраным) відзе.

Нарада загадчыкаў МТФ раёну пастанавіла прасіць Малакацэнтр аб прэміраваньні фэрмы імя Будзённага і загадчыка яе тав. Падалячына.

Патрэбна, каб усе МТФ Беларусі па прыкладу МТФ імя Будзённага ўзяліся за ажыцьцяўленьне заатэхнікі, як магутнага вагара для падняцьця прадукцыйнасьці жывёлы. Хай здабытак МТФ імя Будзённага стане здабыткам усіх МТФ.

**Вільчынскі А.**

# Выклікаю на сацспаборніцтва

**Рудакоўскі, Чабатаронак, Мартасаў, Саньвік, Колас і Махнач,—адказвайце на выклік Ю. Сьвытко.**

Часопісь—„Шляхі калектывізацыі", друкуючы на сваіх старонках рад кіруючых артыкулаў, агратэхнічных парад, па абмену вопытам калгаснай работы і г. д.—зьяўляецца найлепшым дапаможнікам у справе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Аднак, наш **Узьдзенскі** раён недаацэньвае важнасьці гэтай часопісі, і да гэтага часу ня ўключыўся ў абвешчаны конкурс на лепшае распаўсюджваньне часопісі.

У раёне выпісваецца зусім нязначная колькасьць часопісі. Выклік Барысава Узьдзенскім райкалгассаюзам **яшчэ і на сёнешні дзень ня прыняты.**

Трэба зараз-жа дабіцца таго, **каб ні адзін калгас, ні адна калгасная брыгада не засталіся без кіруючай часопісі „Шляхі калектывізацыі".**

Я абвяшчаю сабе ўдарнікам па распаўсюджваньні часопісі і выклікаю на сацспаборніцтва наступных тарарышоў — рабселькораў: **Рудакоўскага, Чабатаронка, Мартасава, Саньніка, Коласа і Махнача.**

**Ю. Сьвытко.**

*Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

11
1932
ЧЭРВЕНЬ

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ і КАЛГАСЦЭНТРУ БССР

## ЗЬМЕСТ



# СЬВІНАГАДОЎЛІ—БАЛЬШАВІЦКІЯ ТЭМПЫ

## АБ СТАНОВІШЧЫ СЬВІНААДКОРМУ І СЬВІНАРАЗМНАЖЭНЬНЯ

### Пастанова ЦК КП(б)Б

Канстатуючы зусім дрэннае становішча справы арганізацыі і выкананьня пляну сьвінаразмнажэньня і сьвінаадкорму па сыстэме спажыўкаапэрацыі БССР (у першым квартале пастаўлена на адкорм 2.829 галоў замест вызначаных плянам 9.610 і атрымана ад рэпрадукцыі парасят старэй 2-х месяцаў толькі 1.592),—прызнаць, што гэта зьяўляецца вынікам адсутнасьці канкрэтнага апэрацыйнага кіраўніцтва і кантролю з боку Белкаапсаюзу, наяўнасьці абязьлічкі і адсутнасьці адказнасьці за гэту справу з боку работнікаў аб'яднаньняў і сэкцыі БКС і ўсёй яго нізавой пэрыфэрыі, а таксама адсутнасьці сапраўднай бальшавіцкай барацьбы з боку паасобных гарадзкіх, раённых і нізавых партыйных, савецкіх і праф-арганізацый за забесьпячэньне выкананьня праграмы сьвінаразмнажэньня і адкорму, скарыстаньня адыходаў і самазагатовак сьвінамаладняка.

Надаючы справе сьвінаразмнажэньня і сьвінаадкорму па спажыўкаапэрацыі выключнае значэньне, ад якой залежыць тэрміновае паляпшэньне забесьпячэньня рабочых мяса-тлушчавымі прадуктамі, ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1. Абавязаць прэзыдыум БКС, яго аб'яднаньні і аўтономныя сэкцыі:

а) забясьпечыць фармаваньне матачнага стада і арганізацыю злучной кампаніі з разьлікам выхаду рэпрадукцыі адкормачнага матар'ялу (парасят звыш 2-х м-цаў) на 1 ліпеня—5.718 галоў і ў другім паўгодзьдзі ня менш 22.111 галоў;

б) паставіць на адкорм да 1 ліпеня 26.410 галоў і ў другім паўгодзьдзі ня менш 32.925 галоў (акрамя пераходзячага астатку на 1-І-32 году);

в) зьняць з адкорму да 1 ліпеня 10.120 галоў з убойнай вагой 7.586 *цнт* і ў другім паўгодзьдзі—29.120 галоў з убойнай вагой 21.839 *цнт*;

г) у лік агульнай пастаўкі адкармліваючым арганізацыям на гарадзкіх адыходах паставіць па гор. Менску 13.796, па Гомелі—7.551, па Віцебску—7.318 і па астатніх гарадох—33.659.

2. Прэзыдыуму БКС забясьпечыць давядзеньне плянаў сьвінаразмнажэньня і сьвінаадкорму да кожнага ЗРК, ЦРК, ЗВК, ТСТ, гарпо і сталовай, паведаміўшы кантрольнае заданьне партыйным камітэтам, райвыканкомам і гарсаветам. Апошнім забясьпечыць кіраўніцтва і кантроль па выкананьні заданьняў.

3. Крыніцы камплектаваньня па сьвінаразмнажэньні і адкорму ўстанавіць за лік рэпрадукцыі і самазагатовак, у сувязі з чым Белкаапсаюзу на працягу трох дзён даць адпаведныя плянавыя заданьні па сваіх нізавых арганізацыях.

4. На працягу **месячнага** тэрміну скончыць перабудову работы сьвінакаапгасаў, у адпаведнасьці з пастановай ЦК УсеКП(б)—для забесьпячэньня выкананьня плянаў рэпрадукцыі і адкорму ў трэставаных гаспадарках, здачы таварнай прадукцыі і поўнага зьнішчэньня

асяданьня і разбазарваньня і ўстанавіць па прынцыпу жывёлагадоўчых саўгасаў НКЗ штат кантралёраў, падпарадкаваных непасрэдна прэзыдыуму Белкаапсаюзу.

5. Прэзыдыуму Белкаапсаюзу ліквідаваць абязьлічку па кіраўніцтве справай сьвінаадкорму і сьвінаразмнажэньня— па аўтаномнай сэкцыі і аб'яднаньнях, арганізаваўшы ў апараце апошніх спэцыяльныя групы па кіраўніцтве, інструктажы і кантролі за гэтай справай.

6. БКС, Белкаапхарчу, ЦП жывёлагадоўчых саўгасаў і памочнікам дырэктароў, адказным за рабочае снабжэньне на прадпрыемствах прамысловасьці, у двухдэкадны тэрмін укараніць гаспадарчы разрахунак, вызначыць адказных асоб і арганізаваць пастаянны кантроль за справай поўнага і эфэктыўнага скарыстаньня адыходаў са сталовых для сьвінаадкорму.

Белкаапсаюзу ўстанавіць спэцыяльную адзінку—намесьніка загадчыка пры ўсіх сталоўках, якія маюць на адкорме звыш 50 сьвіней. Па ўсіх астатніх сталоўках, якія маюць адкорм,—гэтыя абавязкі ўскласьці на аднаго з намесьнікаў загадчыка сталовай.

7. Прапанаваць БКС зараз-жа правесьці прафіляктычныя мерапрыемствы па выхоўваньні маладняка і ўсяго сьвінога пагалоўя. Прыняць рашучыя захады ўзьдзейнасьці да адміністрацыі калгасаў і адкормачных пунктаў, ігнаруючых патрабаваньні ветнагляду.

8. Абавязаць НКСнаб, упаўнаважанага камітэту па загатоўках і кіраўнікоў прадпрыемстваў харчпрамысловасьці—забясьпечыць перадачу адыходаў гарадзкой харчпрамысловасьці (бровараў, млыноў і інш.)—для сьвінаадкорму і сьвінаразмнажэньня, а таксама вылучыць спэцыяльны фонд канцкармоў у распараджэньне БКС для большай эфэктыўнасьці і скарачэньня тэрмінаў адкорму.

9. Устанавіць, што адкорм па лініі ЦРК, ЗВК, ТСТ, сыстэме грамадзкага харчаваньня (сталоўкі Белкаапхарчу і інш.) і іншых каапэрацыйных арганізацый, утвараемы ў парадку самазагатовак, у тым ліку па дагаварох з Сельпо і калгасамі (пасьля выкананьня імі плянаў здачы (продажу) дзяржаве) можа выдаткоўвацца самастойна гэтымі арганізацыямі.

Забараніць усім арганізацыям забіраньне адкармліваемага і выгадоўліваемага сьвінога матар'ялу з каапэрацыйных гаспадарак (калгасы, райсаюзы, сельпо) без дазволу Белкаапсаюзу.

10. Абавязаць БКС і ЦП жывёлагадоўчых саўгасаў у месячны тэрмін забясьпечыць перавод на зьдзельную аплату працы ўсяго абслугоўваючага пэрсаналу сьвінакаапгасаў. Новая сыстэма зарплаты павінна стымуляваць максымальнае скарачэньне адыходу маладняка і эфэктыўнасьць адкорму.

11. Прапанаваць гаркомам і райкомам узмацніць кіраўніцтва і разгортваньне масава-палітычнай работы ва ўсіх гаспадарках і адкормачных пунктах спажывецкай сыстэмы, устанавіць сыстэматычны нагляд за ходам камплектаваньня і здачы таварнай прадукцыі і забясьпечыць разгортваньне сацспаборніцтва і ўдарніцтва, а таксама перабудову работы сьвінакаапгасаў і адкормачных пунктаў—у адпаведнасьці з 6-ю ўмовамі тав. Сталіна.

12. Праз месяц заслухаць аб ходзе выкананьня гэтай пастановы Менскім і Віцебскім гаркомамі партыі.

13. Даручыць ЦКК-НК РСІ сыстэматычна праверыць работу і становішча па сьвінаразмнажэньні і па сьвінаадкорме і інфармаваць ЦК КП(б)Б. Аб выяўляемых фактах зрыву выкананьня заданьняў па адкорме і здачы—вырашыць пытаньне аб прыцягненьні вінаватых да адказнасьці.

14. Даручыць цэнтральным і раённым газэтам справу сьвінаразмнажэньня і сьвінаадкорму асьвятляць у друку, мабілізуючы ўвагу шырокіх пралетарскіх мас на забесьпячэньне выкананьня плянавых заданьняў.

## Зьнішчыць ялавасьць сьвінаматак, выгадаваць увесь прыплод

НКЗБ у суадпаведнасьці з пастановай СНК БССР ад 3-IV—32г. абвешчан двухмесячнік правядзеньня злучной кампаніі, захаваньня маладняку ў саўгасах і СТКФ. Двухмесячнік абвешчан з 1-га мая па 1-е ліпеня. Для падвядзеньня вынікаў па гадоўлі маладняка дзень 1 чэрвеня абвешчан рэспубліканскім днём агляду становішча маладняка і ходу злучной кампаніі.

Задачы, пастаўленыя перад гэтым двухмесячнікам—ліквідаваць па сьвінасаўгасах і СТКФ ялавасьць сьвінаматак, зьнішчыць адыход маладняку і забясьпечыць гэтым самым пасьпяховую здачу таварнай прадукцыі. Для выкананьня і перавыкананьня пастаўленых задач патрэбна мабілізацыя грамадзкасьці саўгасаў і СТКФ, перш за ўсё, на пасьпяховае правядзеньне злучной кампаніі бягучага году і захаваньне маладняка зімовых і вясновых апаросаў.

Самыя большыя страты ў сьвінагадоўлі за мінулы год складаліся з падзяжу маладняка, які даходзіў у некаторых саўгасах да 60—80 проц. і ялавасьці матак. Ялавасьць у сярэднім даходзіла па БССР за 1931 г. да 30 з лішнім процантаў, а па некаторых саўгасах да 60. Зусім відавочна, што ялавасьць сьвінаматак, гібель маладняка—памяншаюць колькасьць мяса для рабочай клясы і павышаюць сабекошт сьвініны. Карміць сьвінаматку і не атрымоўваць ад яе прыплоду,—такога зьявішча ў 1932 г. мы дапусьціць не павінны.

Што значыць дапусьціць ялавасьць матак на 30 проц.? Гэта значыць толькі па „Сьвінаводу" не дадаць дзяржаве каля 45.000 таварных падсьвінкаў.

Трэба рашуча паставіць пытаньне, каб улік маладняка праводзіўся па ўсёй сыстэме сьвінагаспадарак па фактычнаму выхаду парасят на сьвінаматку к ад'ёму. Процанты адыходу, якія даюцца некаторымі саўгасамі, іншы раз прыводзяць да „очковтирательства". Улічваючы выхад парасят на плянавую сьвінаматку к ад'ёму паралельна з гэтым указваць проц. адыходу. Прамфінплян на сьвінаматку ўстаноўлен урадам у прамгасах у сярэднім 5—6 таварных падсьвінкаў на апарос, а гадавы выхад на плянавую сьвінаматку пры 1,3 апаросаў 7,2 падсьвінкаў.

Пастанова ЦК УсеКП(б) і СНК СССР ад 10-V аб пляне жывёлазагатовак ставіць сваёю мэтаю—давесьці да канца барацьбу з безгаспадарчасьцю ў жывёлазагатоўчых саўгасах, павысіўшы пляны па здачы дзяржаве мяса саўгасамі амаль у два разы. Парыяд камплектаваньня скончан і дзяржава ў праве патрабаваць прадукцыю, якую сацыялістычна

вытворчасьць павінна здаць. У зьвязку з гэтым вырастае больш адказная роля і значэньне жывёлагадоўчых саўгасаў на даным этапе, як вытворцаў мяса.

Тым больш, пастанова ЦК УсеКП(б) і таму, што на апошнія 3 кварталы плян здачы з 90.000 тон мяса па жывёлагадоўчых саўгасах СССР павялічан да 138 000 тон і ў адпаведнасьці па калгаснаму і аднаасобнаму сэктару плян зьніжан з 1.414.000 тон да 716.000 тон. Палітычная ўстаноўка гэтага зьніжэньня ў тым, што на гэтай аснове калгасамі і аднаасобнікамі будзе разгорнут калгасны гандаль жывёлай і мяснымі прадуктамі. Туму барацьба за выкананьне і перавыкананьне пляна злучак і захаваньне прыплоду становіцца ўдарнай кампаніяй, справай гонару жывёлагадоўчых саўгасаў.

Злучная кампанія гэтага году павінна праходзіць арганізавана. У злучку можна пускаць толькі тых кныроў-вытворнікаў, сперма якіх пад мікраскопам паказала добрыя вынікі (жыўчыкі актыўна рухомыя). Такім чынам, перш за ўсё, кныры-вытворнікі павінны сыстэматычна правярацца на якасьць спэрмы. Акрамя гэтага, як аб сьвінаматках, так і аб кнырох-вытворніках трэба мець адпаведныя зьвесткі—якіх парасят гадуе сьвінаматка і якія парасяты родзяцца ад кныра-вытворніка. Гэта значыць, у сьвінагадоўлі і асабліва ў справе расплоду патрэбен абавязкова вучот прадукцыйнасьці сьвінаматак.

Вельмі часта заатэхнікі саўгасаў ня ведаюць лепшых кныроў-вытворнікаў і сьвінаматак у стадзе. Яны як і прыплод ад іх губляюцца ў агульнай масе сьвіней. Такое становішча ненармальнае. Для таго, каб атрымаць большую колькасьць і лепшай якасьці парасят, злучная кампанія павінна праходзіць у строга акрэсьленыя тэрміны. Апаросы па БССР будуць праводзіцца з паловы лютага па кастрычнік. Сьвінаматка носіць плод у сярэднім 113 дзён ці 3 месяцы, 3 тыдні і 3 дні. Такім чынам злучкі ў суадпаведнасьці з гэтым павінны праходзіць з канца лістапада да паловы ліпеня. Застаўся фактычна невялікі тэрмін, які трэба зрабіць штурмавым, каб атрымаць у жніўні і верасьні парасят. Зімовы апарос забаронен на 2 гады, акрамя паўднёвых рэспублік Савецкага саюзу.

### Тэхніка злучкі

Першы раз у злучку маладыя сьвіньні пускаюцца ў прамгасах і СТКФ у 8 месяцаў, а кныры ў 10 месяцаў, у племкалгасах маткі ў 9—10 месяцаў, кныры ў 11—12 месяцаў. У такім узросьце маладая жывёла ідзе ў злучку пры ўмове добрага агульнага разьвіцьця. Жывая вага маладой сьвінаматкі павінна быць для прамгасаў ня ніжэй 65 *кг*, у племкалгасах і племфэрмах калгасаў ня ніжэй 95 *кг*. Сьвінаматкі і кныры, пушчаныя ў злучку маладзейшымі, дрэнна растуць і прыводзяць мала парасят ды к таму слабых. Рэарганізацыя буйных саўгасаў на паасобныя фэрмы з лікам сьвінаматак у 140 галоў з закончаным зваротам стада, высоўвае як асноўны від злучкі—ручную, з абавязковай праверкай сьвінаматак кнырамі-вытворнікамі. На кожных 35—50 сьвінаматак (сьвінарнік) будзе стаяць 2 кныры-вытворнікі. Калі сьвінаматкі і кныры-вытворнікі не пранумараваны—безадкладна іх пранумараваць вышчыпамі ці татуіравальнымі шчыпцамі.

Ручная злучка мае ўсе дадатныя бакі для наладжваньня падбора і вучоту ў сацыялістычнай сьвінагадоўлі. Злучка праводзіцца на роўнай, закрытай ад ветру пляцоўцы. Норма нагрузкі на кныра-вытворніка ўстанаўліваецца наступная: старэй 2 гадоў—75 злучак, маладзей—50 злучак.

Кныра можна пускаць у дзень, як правіла, да адной сьвінаматкі. Калі кныроў у гаспадарцы не хапае, як выключэньне, можна пакрываць адну матку раніцой, а другую ўвечары, але на другі дзень кныру даць адпачынак.

З кнырамі, у якіх не абрэзаны іклы, абслугоўваючаму пэрсаналу працаваць небясьпечна, для другіх кныроў, калі выпадкова яны сгрэнуцца, таксама небясьпечна, а таму неабходна іклы ва ўсіх кныроў сьпільваць сьлясарнаю пілкаю. Для гэтай апэрацыі накідаюць на верхнюю сківу кныра пятлю, заціскаюць і прывязваюць да плота ці да чаго іншага. Жывёла стаіць пры гэтым і ня рухаецца.

У час злучнога сэзону кнырам да звычайнага рацыёну дабаўляецца 0,5 –1 *кг* аўсянай мукі.

Улетку да паловы ліпеня трэба абавязкова выганяць кныроў на пашу паасобку ці разам з сьвінаматкамі. Калі ёсьць матка ў ахоце, кныр пакрывае яе і матка разам з кнырам з статку вылучаецца. Гэты від кантрольна-групавой злучкі ўступае ручной злучцы, але на даным этапе рэарганізацыі саўгасаў яго прымяняць таксама можна.

У некаторых саўгасах і СТКФ наглядаюцца выпадкі інфэкцыйнага аборту—заразьлівай хваробы, якая перадаецца ад вытворнікаў сьвінаматцы, а таму за здароўем жывёлы ў час злучной кампаніі трэба сачыць пільна і ў выпадку чаго сыгналізаваць Трэсту, Сьвінаводкалгасцэнтру, вэтэрынарным арганізацыям і г. д. Хвароба тым больш небясьпечна, што яна перадаецца і на людзей.

### Цечка

Пасьля апаросу пакрываць сьвінаматак можна не раней 8-га дня. Калі матка па тым ці іншым прычынам прахаласьціць першую цечку—яна аднаўляецца ў яе, як правіла, праз тры дні, а таму за гэтай паўторнай цечкай трэба пільна сачыць. Цечка бывае бурная і ціхая. Адзнакі цечкі наогул—родавыя органы чырванеюць, прыпухаюць, з іх выцякае з характэрным пахам сьлізь, матка часта мочыцца і г. д. Пры бурнай цечцы яна скача на другіх, гудзе і г. д. Пры ціхай цечцы гэтых адзнак ня бывае. Ахота ў сьвіней цягнецца звычайна 2—3 дні і рэдка 4 дні. Лепш пускаць матак у злучку на другі дзень ахоты. Процант ялавасьці пры гэтым бывае меншы.



Сьвіное стада саўгаса „Блонь“, Пухавіцкага раёну.

Лепш за ўсё выявіць матак ў ахоце можна, праганяючы кныра на калідоры сьвінарніка. У такіх выпадках маткі ў ахоце пачынаюць хвалявацца што можна лепш заўважыць.

### Якіх кныроў і сьвінаматак можна пускаць у злучку

Як ужо адзначалася—у злучку можна пускаць жывёлу толькі здаровую, без дэфэктаў. Сьвінаматкі не павінны быць худымі і перакормленымі. Як ад вельмі худых, так і занадта тлустых сьвінаматак родзяцца слабыя парасяты. Часта перакормленыя сьвінаматкі не запладняюцца.

Для таго, каб кныры і сьвінаматкі былі здаровымі—зімой патрэбна ўтвараць прагулкі, улетку выганяць на пашу, правільна карміць, паіць і даглядаць. Як худыя так і перакормленыя кнырывытворнікі, незалежна ад узросту, дрэнна ідуць або зусім ня здольны ісьці ў злучку і маткі ад іх амаль не запладняюцца. Тлустаму кныру (ён бывае надта вялым) даюцца рэгулярныя прагулкі, зьмяншаюцца кармавыя дачы. Худога кныра трэба падправіць—даць яму корму ўволю і ня пускаць у злучку.

Выбракоўка сьвінаматак і кныроў павінна праходзіць асьцярожна—пасьля ўсебаковага вывучэньня іх племянных якасьцяй. Пакідаць на племя сьвінак і кныркоў трэба ў першую чаргу ад такіх сьвінаматак, якія ў сярэднім к ад'ёму даюць ня менш 6—7 парасят ці ў крайнім выпадку 5 парасят.

Правядзеньне злучной кампаніі бяз пляна, самацёкам абавязкова прывядзе да прарыву. Заатэхнік, выходзячы з агульнага пляну развароту стада, павінен скласьці канкрэтны плян злучак, устанавіць строгі расклад, якую матку якім кныром пакрываць, тэрміны і г. д. Брыгадны мэтад і рэарганізацыя саўгасаў на паасобныя фэрмы ўскладаюць пэрсанальную адказнасьць за тэхнічнае правядзеньне злучной кампаніі на сьвінара-брыгадзіра.

Там, дзе рэарганізацыя не пачалася—павінны быць вылучаны адказныя сьвінары і тэхнікі за злучную кампанію.

Толькі пры мабілізацыі ўсёй грамадзкасьці саўгасаў і СТКФ плян злучной кампаніі 1932 г. і дырэктывы партыі і ўраду аб разьвіцьці сацыялістычнай сьвінагадоўлі будуць выкананы.

**М. Змушко.**

# АРГАНІЗАВАЦЬ ПАШУ ДЛЯ СЬВІНЕЙ

### Значэньне пашы для сьвіней

Паша сьвіней на полі значна ўтаняе і скарачае расход канцэнтраванага корму, садзейнічае лепшаму захаваньню маладняка, больш хуткаму росту маладняка і гэтым самым утаньняе сабекошт сьвіньні на 25—30 проц. Мацыён, сьвежае паветра, зялёны корм, багаты вітамінамі і бялкамі, робяць пашу незамянімым сродкам для ўмацаваньня здароўя сьвіней. Гэта важны момант у сьвінагадоўлі, таму што толькі здаровае сьвіное стада можа быць прадукцыйным. У выніку такога вялізарнага значэньня пашы для сьвіней, яны павінны быць арганізаваны ва ўсіх саўгасах, СТКФ і калгасах.

### Арганізацыя пашы

У задачу арганізацыі пашы ўваходзіць: бесьперабойнае забесьпячэньне зялёнымі кармамі ўсяго сьвінога стада на працягу ўсяго пэрыяду пашы. Для вырашэньня гэтай задачы ў кожным саўгасе і калгасе неабходна: а) вызначыць патрэбную колькасьць зялёнай масы для сьвіней штомесячна, з пачатку і да канца пэрыяду пашы; б) выбраць культуры для высеву на пашы; в) вызначыць, якую плошчу неабходна засеяць, месца і тэрміны засеву культур на пашы, выходзячы з бесьперабойнага забесьпячэньня стада пашай і зялёным кормам; г) устанавіць плян выкарыстаньня пашы на працягу ўсяго пашавага пэрыяду.

Для вызначэньня патрэбы для стада ў зялёным корме неабходна карыстацца наступнымі нормамі дзённага ўжываньня зялёнага корму рознымі групамі сьвіней, якія рэкамэндуюцца інстытутам сьвінагадоўлі: кныру ў дзень 4 *кг* зялёнай масы, халастой сьвінаматцы—7 *кг*, парасятам да 2 мес. узросту—0,9 *кг*, маладняку ад 2 да 4 мес.—2½ *кг*, маладняку ад 4 да 8 месяцаў—4 *кг*, падсосным сьвінаматкам—4 *кг*.

### Культуры пашы

Пры выбары культур для пасеву на пашы неабходна ўлічваць асаблівасьці глебавых умоў гаспадаркі, забясьпечанасьць насеньнем і тэрміны гатоўнасьці культуры, што высяваецца для пашы і для зялёнай падкормкі. Для БССР у гэтым годзе магчыма скарыстаць для пашы высокаякасную культуру—канюшыну, якая зьяўляецца аднэй з каштоўных культур для пашы.

Пасьба сьвіней на канюшыне праводзіцца на 2-гі год пасьля пасеву, калі расьліна дасягае вышыні 15—20 *см* і да часу красаваньня. Так сама неабходна выкарыстоўваць для пашы атаву канюшыны. Увосень пасьба на канюшыне спыняецца за 2—3 тыдні да наступленьня замаразкаў.

**Віка-аўсяная мешанка**—высеяная ў розныя тэрміны, дае надзвычай каштоўную пашу для сьвіней на працягу ўсяго лета.

**Увага.** Віка-аўсяную і пялюшка-аўсяную ці ячменную мешанкі лепш даваць сьвіням у скошаным выглядзе, як зялёную падкормку. Скармліваньне рабіць зараз-жа пасьля скашваньня і ні ў якім разе не пазьней 2-х гадзін пасьля скашваньня.

**Кукуруза з гарохам**—высеяная раньняй вясной дае добры летні выпас.

**Авёс або ячмень**—у чыстым пасеве дае добрую пашу, якую неабходна выкарыстоўваць да пачатку каласэньня.

**Кармовыя буракі, турнэпс, маркоўка і сэрадэля**—высеяная раньняй вясной пад жыта ці ярыну, даюць каштоўную пашу для асеньняга сэзону.

**Бручка і буракі (расадай), турнэпс**—высеяныя пасьля ўборкі жыта, ці раньняга ячменю даюць надзвычай каштоўную пашу да позьняй восені.

**Азімае жыта**—паша сьвіней па жыце робіцца толькі на асобных вучастках, якія спэцыяльна высеяны для выпасу. Пры высеве жыта ў першую дэкаду жніўня месяца, сьвіньні забясьпечваюцца самым раньнім зялёным выпасам (май месяц наступнага году).

## Падрыхтоўка стада да пашы

Перад выпускам сьвіней на пашу праводзіцца пагалоўны вытагляд усяго стада, выдзяляюцца хворыя, выбракоўваюцца незьлячымыя хворыя. Кныром спільваюцца клыкі і ўсім сьвіньням падразаецца капытны рог. Да паяданьня зялёнай травы на пашы, сьвіньні прывучаюцца паступова, для чаго раньняй вясной выганяюць сьвіней на прагулкі ў поле на бульбянішча. Рэзкі пераход ад стойлівага ўтрыманьня да пашы і зялёнага корму можа выклікаць розныя страўнікавыя захворваньні ў сьвіней. Япручкоў, прызначаных для адкорму, перад выпускам на пашу неабходна кастрыраваць.

На пашу выганяюцца ўсе сьвіньні. Супаросныя сьвінаматкі за 10 дзён да апаросу вылучаюцца з агульнага стада і пераводзяцца на апарос у сьвінарнік, у спэцыяльна падрыхтаваныя станкі і на пашу не ганяюцца. У гэты час супаросныя сьвінаматкі да 5-ці дзён пасьля апаросу (пакуль не акрэпнуць парасяты), абавязкова карыстаюцца прагулкамі ў загонах і зялёнай падкормкай. Для падсосных сьвінаматак з парасятамі арганізуюцца пашы на прысядзібных вучастках недалёка ад сьвінарніка ці лягеру, каб не ганяць іх на пашу на далёкую адлегласьць.

## Арганізацыя пашы сьвіней і скарыстаньне яе.

Каб не дапускаць абязьлічкі ў доглядзе і абслугоўваньні сьвіней на пашы, сьвіньні пасуцца такімі-ж групамі, як яны ўтрымоўваюцца ў сьвінарніку. Пашу і абслугоўваньне сьвіней праводзіць тая-ж брыгада, да якой прымацаваны сьвіньні. Для пашы прымацаваныя да брыгады сьвіньні разьбіваюцца на групы: маткі падсосныя з парасятамі, маткі халастыя, рамонтны маладняк і маладняк ад 2 да 4 месяцаў. Каб сьвіньні добра паядалі траву на пашы, іх выганяюць на пашу без папярэдняй падкормкі.

Летам у гарачыя дні лепшым часам для пашы зьяўляюцца раньнія і вячэрнія гадзіны, таму што ў дзень у сьпёку ў сьвіней могуць быць апалы ад сонца і сонечныя ўдары. Увосень і ўлетку ў хмурнае надвор'е кормячых матак з парасятамі выпускаюць на пашу толькі ў больш цёплыя дзенныя гадзіны, каб перасьцерагчы парасят ад прастудных захворваньняў, а раніцой і ўвечары даюць зялёны корм у загонах. Пасьля дажджу, пакуль зямля не абсохне, сьвіней ня трэба выганяць на пашу, таму што сырую пашу сьвіньні топчуць і рыюць. Супаросных сьвінаматак трэба выганяць на пашу вельмі асьцярожна, каб ня выклікаць выкідышаў.

На пашы сьвіньні застаюцца да таго часу, пакуль яны ахвотна ядуць траву, пасьля таго як яны наядуцца і пачынаюць класьціся, іх заганяюць у загоны для адпачынку. Сьвіней магчыма ганяць на пашу на наступную адлегласьць: маткі халастыя і маладняк—$11\frac{1}{2}$ *км*, маткі падсосныя—$\frac{1}{2}$ *км*. Пасьвіць сьвіней трэба не па ўсім выпасе, а на спэцыяльна адведзеных вучастках па 8—10 дзён на кожным. Такі парадак дае магчымасьць найбольш эканомна скарыстаць пашу.

## Падкормка сьвіней на пашы

Падкормку сьвіней на пашы канцэнтраванымі кармамі неабходна рабіць для халастых і супаросных матак адзін раз на дзень, падсосных матак з парасятамі 2—3 разы на дзень, маладняк і матак у другіх пэрыядах супаросласьці два разы на дзень, адкормачны маладняк на апошняй стадыі адкорму—два-тры разы на дзень.

Распарадак дня пры нашым утрыманьні сьвіней прыкладна устанаўляецца наступны: на пашу сьвіньні выганяюцца а 5 гадзіне раніцы без папярэдняй падкормкі канцэнтратамі. А 9 гадзіне сьвіньні заганяюцца пад павець тут-жа на выпасе, пасьля двух-трох гадзіннага адпачынку ім даецца канцэнтраваны корм. Пасля пачы канцэнтраванага корму, сьвіньням зноў даецца адпачынак 2—4 гадзіны і калі гарачыня спадзе, сьвіньні выганяюцца на выпас да 7—8 гадзін вечара. А 9—$9\frac{1}{2}$ гадзіны пасьля $1\frac{1}{2}$-гадзіннага адпачынку даецца канцэнтраваны корм.

Колькасьць падкормкі даецца ў залежнасьці ад якасьці пашы, пры гэтым неабходна наглядаць, каб сьвіньні ня худзелі і хутка расьлі. Арыентыровачна на пашы сьвіньням даюць моцных кармоў у наступнай колькасьці (кілёграм) у процантах ад жывой вагі сьвіней: маладняку ад 2—8 месяцаў—2 проц.; маладняку, які адкармліваецца—3 проц., дарослым сьвіньням (маткі халастыя і супаросныя)—0,5 проц., маткі дарослыя, якія маюць 7 парасят—3-$2\frac{1}{2}$ проц., маткі дарослыя з меншым памётам—2-$2\frac{1}{2}$ проц., маткі маладыя з памётам ня менш 7 парасят—3 проц., маткі маладыя з меншым памётам—$2\frac{1}{2}$ проц., кныры—1,5-2 проц. На пашы, акрамя падкормкі моцнымі кармамі, неабходна даваць сьвіньням мінэральную мешаніну з мелу, солі і касьцяной мукі.

У часе пасьбы на самой пашы і ў загонах неабходна забясьпечыць сьвіней чыстай сьвежай вадой для піцьця ўволю. Пойку сьвіней лепш за ўсё арганізаваць з самапаілак, каб сьвіньні заўсёды мелі доступ да вады. Прасьцейшую аўтаматычную самапаілку можна зрабіць у кожным саўгасе і калгасе наступным чынам. У звычайнай бочцы ўстанаўляецца другое дно, у якім робяцца дзьве дзіркі, адна меншая, дыямэтрам 0,5 *см* і большая—3 *см*. Бочка ставіцца ў скрынку, зьбітую з дошак, з вышынёй сьценак 11 *см*. У бакавой частцы бочкі на вышыні 7-8 *см* робяцца па 3-4 дзіркі з дыямэтрам 0,5 *см*. Праз большую дзірку ў верхнім дне бочкі наліваецца вада, пасьля яно шчыльна закрываецца драўляным коркам. Меншая дзірка ў верхнім дне застаецца незакрытай для цыркуляцыі паветра. Вада для піцьця паступае з бочкі ў скрынку праз бакавыя дзіркі і застаецца на ўзроўні, які закрывае бакавыя дзіркі.

## Пабудова лягераў

Для дзённага адпачынку, начоўкі, аховы ад сьпёкі, дажджу—на самай пашы, або блізка ад пашы на ўскраінах лесу, хмызьнякоў павінны быць арганізаваны лягеры—загоны з прасьцейшымі навесамі з саломы і дошак, або з густых яловых лапак, абгароджаныя з 3 х бакоў, каб зьбегчы скразьняка. Для падсосных матак з парасятамі і ў выпадку неабходнасьці рабіць апарос на пашы—робяцца драўляныя дашчатыя домікі. Лягеры арганізуюцца па прынцыпе—асобны лягер для кожнай фэрмы.

Кожны лягер падзяляецца на аддзяленьні для разьмяшчэньня ў кожным з іх сьвіней, прымацаваных да паасобных брыгады па абслугоўваньню. Зьмешваньне сьвіней у загонах, замацаваных за

рознымі брыгадамі не дапускаецца. Для паасобнага разьмяшчэньня ў загоне розных узростных груп, замацаваных за аднэй брыгадай, загон разгароджваецца на адпаведныя часткі (г. зн. робяцца аддзяленьні для маладняка, халастых, супаросных, падсосных матак).

Каб папярэдзіць захворваньне сьвіней глістнымі хваробамі, асабліва небясьпечнымі для маладых парасят, падсосных матак з парасятамі пускаюць толькі на сьвежыя, чыстыя пашы, на якіх у гэтым і мінулым годзе ня пасьвілася жывёла. Пабочныя сьвіньні і інш. жывёла на пашу да сьвіней не дапускаюцца.

Для барацьбы з вашыма сьвіней пэрыядычна вмазваюць скуру мешанінай газы і адпрацаваных машынных масел. Перад выпускам на пашу ўсім сьвіньням павінна быць зроблена прышчэпка супроць рожы. Камбінацыйныя прывіўкі парасят супроць чумы праводзяцца ў загонах. Пашы не павінны арганізоўвацца каля шляхоў, жывёла-могільнікаў і інш. месц, якія могуць быць крыніцамі заражэньня сьвіней рознымі хваробамі.

**Рашуча пакончыць з недаацэнкай пашы**

Выгады, якія дае паша для сьвіней, саўгасы, СТКФ і калгасы павінны атрымаць праз правільную арганізацыю пашы і правільную тэхніку выкарыстаньня іх. Неабходна рашуча пакончыць з недаацэнкай пашы для сьвіней. Вакол справы арганізацыі пашы і пашавага ўтрыманьня сьвіней павінна быць мабілізавана грамадзкасьць саўгасаў і калгасаў.

На вытворча-тэхнічных нарадах сьвінароў і калгасьнікаў неабходна прапрацаваць інструкцыі па арганізацыі пашы. Кожны сьвінар павінен аўладаць тэхнікай арганізацыі пашы і пашавага ўтрыманьня сьвіней. Кожны саўгас, СТКФ і калгас павінны арганізаваць пасьбу сьвіней і падкормку зялёным кормам на працягу ўсяго пашавага пэрыяду.

Сьвінар, уключаючыся ва Ўсесаюзны конкурс на лепшага сьвінара, павінен узяць сабе за абавязак празільна даглядаць і лепш арганізоўваць сьвіное стада на час пашавага пэрыяду. Пашавы пэрыяд—залог выхаду добраякаснай мясной прадукцыі.

**Жыркевіч, Гаўрыленка.**

# ВЫПРАВІЦЬ НЕДАХОПЫ НА ХАДУ

Конкурс на лепшага старшага сьвінара абвешчаны 14 га красавіка. За гэты час—па вестках на 10 мая—уключылася ў конкурс 217 сьвінароў і 250 фэрм. Гэта нас, бязумоўна, ні ў якім разе не задавальняе. Патрэбна, каб па-за конкурсам не засталося ні аднаго сьвінара, ні аднае фэрмы.

На сёнешні дзень, пры правядзеньні работы па конкурсу, ужо выяўляецца рад недахопаў. Асноўмым недахопам трэба лічыць тое, што раённыя арганізацыі зусім ня ўвязваюць работы па конкурсу з вытворчымі праграмамі калгасаў, саўгасаў. Раённыя штабы па правядзеньні конкурса не мабілізуюць усяе масы сьвінароў на ліквідацыю маючыхся прарываў у сьвінаводных фэрмах (злучная кампанія, захаваньне маладняка, здача таварнай прадукцыі і г. д.). Такое становішча мы маем у большай частцы раёнаў БССР, а асабліва выпукляюцца такія раёны: **Клімавіцкі, Крычаўскі, Пухавіцкі, Капыльскі**.

Вялікім недахопам зьяўляецца і тое, што некаторыя мясцовыя арганізацыі, разгортваючы конкурс, ня ўлічваюць паказчыкаў, з якімі той ці іншы таварыш уступае ў конкурс. Нават тыя раёны, якія лепш паставілі справу конкурса (Заслаўскі, Слуцкі і інш.), таксама ня ўлічваюць гэтых паказчыкаў. А неабходна памятаваць, што ня ўлічыўшы паказчыкаў пры ўступленьні ў конкурс, немагчыма будзе дакладна падлічыць якасных паказчыкаў работы на працягу ўсяго конкурсу.

З 20 мая па 30 мая г. г. праводзіліся міжфэрмавыя зьлёты ўступіўшых у конкурс сьвінароў. Тыя таварышы, якія ўдзельнічалі ў гэтых зьлётах, павінны штодзенна змагацца за перанясеньне вопыту лепшых сьвінагадоўчых фэрм у сьвінарнікі сваіх калгасаў і саўгасаў.

**Конкурс працягнуты да канца 1932 г.**

За гэты час мы павінны дамагчыся поўнай ліквідацыі прарываў у злучной кампаніі, поўнай ліквідацыі адыходу маладняка, стопроцантнага выкананьня плянаў па здачы таварнай прадукцыі і г. д. Да канца конкурса мы павінны падыйсьці з стопроцантным выкананьнем паказаньняў партыі і ўраду пра разьвіцьцё сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

**М. В.**

---

**„Праблема разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі, асабліва сьвінагадоўлі, зьяўляецца актуальнай для БССР, як аднаго з важнейшых жывёлагадоўчых раёнаў Савецкага саюзу“ (з пастановы аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б)**

# Конкурс на лепшага старшага сьвінара— справа ўсёй савецкай грамадзкасьці

Вырашэньне мясной праблемы патрабуе ад усёй савецкай грамадзкасьці ўсямернай дапамогі разьвіцьцю жывёлагадоўлі. Партыя і ўрад у сваіх пастановах падкрэсьлівалі, што жывёлагадоўля мае зараз такое-ж першачарговае значэньне, як і вырашэньне зернавой праблемы ў 1929—30 г. Але ня ўсюды яшчэ мабілізавана актыўнасьць мас на шырокае разгортваньне жывёлагадоўлі, на выкананьне і перавыкананьне плянаў жывёлагадоўлі, на скарыстаньне ўсіх мажлівасьцяй кожнай асобнай гаспадаркі, кожнага асобнага раёну для вырашэньня гэтай важнейшай задачы ў галіне сельскагаспадарчай вытворчасьці. Ня ўсюды яшчэ зьвернута належная ўвага на нармальную работу жывёлагадоўчых калгасных таварных фэрм.

Асабліва вялікая роля ў вырашэньні мясной праблемы належыць сьвінагадоўлі. Сьвіньня зьяўляецца аднэй з самых скарасьпелых жывёл і на кожны *кг* прывесу патрабуе значна менш кармоў, чым, напрыклад, буйная рагатая жывёла. Сьвінагадоўля ва ўмовах БССР, пры правільнай пастаноўцы справы, зьяўляецца амаль самай прыбытковай галіной сельскагаспадарчай вытворчасьці. Але ў рабоце калгасаў сьвінафэрмам вельмі часта не аддаецца тая ўвага, якую яны заслугоўваюць. На сьвінарніках не заўсёды працуюць сталыя брыгады, не ліквідавана абязьлічка ў доглядзе за сьвінямі, не ліквідавана ўраўнілаўка ў залічэньні працадзён сьвінарам, што вядзе да дрэннага догляду, да падзяжа маладняка. Сьвінарнікі шмат дзе не абсталяваны належным чынам, у іх брудна, сьвіньні на прагулку не выпускаюцца, кормяцца не па норме, корм скарыстоўваецца нерацыянальна. Калі сьвінар не мабілізаван на барацьбу за павышэньне колькасных і якасных паказчыкаў свае работы, калі ён не мабілізаван на ауладаньне тэхнікай сьвінагадоўлі, на заатэхнічную вучобу,—работу ў сьвінарніку наладзіць, зразумела, немагчыма.

Выключная роля ў арганізацыі работы на сьвінарніку, бязумоўна, належыць старэйшаму сьвінару, які зьяўляецца кіраўніком і арганізатарам свае брыгады ў яе барацьбе за выкананьне і перавыкананьне плянаў, за павышэньне колькасных і якасных паказчыкаў свае работы.

Улічваючы важнасьць сьвінагадоўлі і ролю старшага сьвінара ў налажаньні правільнай работы на сьвінарніку НКЗем Саюзу абвясьціў усесаюзны конкурс на лепшага старшага сьвінара. Конкурс павінен мабілізаваць увагу ўсёй савецкай грамадзкасьці і, у першую чаргу, работнікаў сьвінагадоўлі, на пытаньнях палепшаньня сьвінагадоўлі, лепшай арганізацыі працы ў саўгасных і калгасных сьвінагадоўчых фэрмах, добрага догляду, рацыянальнага скарыстаньня кармоў, дачы корму па норме, поўнага захаваньня прыплоду, барацьбы з інфэкцыяй і поўнай здачы таварнай продукцыі.

Саюзны Наркамзем вылучыў для прэміраваньня лепшых старшых сьвінароў фонд у 300 тысяч рублёў. Акрамя гэтага Наркамзем БССР вылучыў дадатковы фонд у 15 тысяч руб. для прэміраваньня лепшых сьвінароў Беларусі. ЦП саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў вылучыў для прэміраваньня лепшых сьвінароў саўгасных фэрм 15 прэмій—месцы ў дамох адпачынку і на курорты. Газэта „Калгасьнік Беларусі" прэміруе лепшых сьвінароў экскурсіямі па СССР.

Вялізарнейшую ролю ў арганізацыі мас на барацьбу за колькасныя і якасныя паказчыкі конкурсу павінен адыграць друк. Цэнтральныя і раённыя газэты, шматтыражкі і насьценныя газэты павінны ўключыцца ў конкурс і паказам работы лепшых сьвінароў весьці астатніх на дасягненьне высокіх паказчыкаў конкурсу. Камсамолія, якая вядзе барацьбу за сілас, за тону апароса, павінна мабілізавацца на разгортваньне і правядзеньне конкурсу на старшага сьвінара.

Наркамземам БССР устаноўлены наступныя паказчыкі конкурсу:

Здача сьвіней у адкормленым відзе да 8 месячнага ўзросту вагой ня ніжэй 80 *кг* пры захаваньні ў сярэднім ня менш 5 падсьвінкаў на апарос. Затрата корму на 1 *кг* прыросту не павінна перавышаць 5 *кг* кармовых адзінак. Захаваньне да часу ад'ёму парасят, якія нарадзіліся жывымі, ня менш 6 шт. на апарос з давядзеньнем да 2-х месячнага ўзросту жывой вагі ня ніжэй 10 *кг* на кожнае парася. Забясьпечыць сутачны прырост парасят, аднятых ад сьвінаматак, ня ніжэй 400 грам у суткі да 8-месячнага ўзросту. На фэрме ва ўстаноўлены тэрмін павінны быць пакрыты ўсе маткі.

Гэтыя паказчыкі зьяўляюцца баявой праграмай дзейнасьці для кожнага сьвінара і для кожнай саўгаснай і калгаснай газэты.

За дасягненьне лепшых колькасных і якасных паказчыкаў устанаўліваюцца наступныя прэміі: **З фонду Саюзнага Наркамзему:**

20 прэмій па 1 тыс. руб. і акрамя таго касьцюм і паліто ў кожнай.

100 прэмій па 750 руб. і 1 касьцюм у кожнай.

100 прэмій па 500 руб. у кожнай.

300 прэмій ад 150 руб. да 300 руб. кожная і розныя каштоўныя рэчы.

Атрымаўшыя першыя 10 прэмій накіроўваюцца ў санаторыі і дамы адпачынку. Вызначаюцца спэцыяльныя прэміі дырэктарам сьвінасаўгасаў, загадчыкам сьвінафэрм і спэцыялістам пры ўмове выкананьня прамфінпляна (тых гаспадарак, у якіх будуць прэміраваны старшыя сьвінары першымі прэміямі). Райвыканкомы тых раёнаў, у якіх па конкурсу ўзялі першае месца старшыя сьвінары, атрымліваюць прэмію—легкавыя аўтамабілі.

Рэдакцыя краявой і раённай газэты, якая найлепш разгорне масавую работу вакол конкурсу і наладзіць найлепшы паказ работы сьвінарніка і сьвінара, атрымае прэмію ў разьмеры 5 тыс. руб. Устанаўліваецца 5 прэмій па 500 руб. для шматтыражак. Вызначаецца адна прэмія аўтару за лепшую брашуру аб старшым сьвінары ў 1 тыс. руб. (акрамя аўтарскага ганарару).

Звыш гэтага з фонду Наркамзему БССР вызначаецца: 10 прэмій па 500 руб., 14 прэмій—па 250 руб., 20 прэмій па 200 руб., 20 прэмій па 150 р. Вызначаюцца спэцыяльныя прэміі дырэктарам сьвінасаўгасаў, загадчыкам сьвінафэрм і спэцыялістам, пры ўмове выкананьня прамфінпляна, у разьмеры месячнага заробку.

Рэдакцыям раённых і цэнтральных газэт, найлепш разгарнуўшым масавыя мерапрыемствы вакол кункурсу і за найлепшы паказ работы сьвінарніка і работы сьвінара, вызначаецца прэмія ў 1.000 руб. і 5 прэмій па 200 руб. для шматтыражак і насьценных газэт. Вызначаецца адна прэмія аўтару лепшай брашуры аб старшым сьвінары ў 300 руб. (акрамя аўтарскага ганарару).

Кожны старшы сьвінар кожная сьвінаводная брыгада, заатэхнікі, загадчыкі фэрм павінны безадкладна павесьці барацьбу за першае месца ў конкурсе, за атрыманьне прэміі. Прэмія—гэта ганаровая ўзнарода за актыўную работу, за дасягненьне лепшых паказчыкаў у рабоце.



9-месячны маладняк ангельскай пароды (саўгас „Блонь").

Конкурс праводзіцца да канца гэтага году. Акрамя старшых сьвінароў у ім могуць прымаць удзел таксама і ўсе малодшыя сьвінары і сьвінаркі, якія маюць добрыя паказчыкі ў рабоце. Для ўключэньня ў конкурс трэба падаць заяву ў камісію садзейнічаньня конкурсу, якая ёсьць пры кожнай саўгаснай і калгаснай фэрме і ў выпадку адсутнасьці яе—у раённую камісію садзейнічаньня конкурсу, якая ёсьць пры кожным райза.

Калгасныя і саўгасныя насьценгазэты, шматтыражкі і раённыя газэты павінны шырока разгарнуць работу па конкурсу. Узаемаправерка раённых, нізавых і цэнтральных газэт у іх рабоце па конкурсу, арганізацыя зьлётаў, нарад, канфэрэнцый па абмену вытворчым вопытам зьяўляюцца лепшымі формамі работы вакол конкурсу.

Работу па правядзеньні конкурсу неабходна ўвязаць з калгасным гандлем мясам, папулярызацыяй пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК аб мясазагатоўках, з выкананьнем пастановы ЦК, СНК і НКЗ Саюзу „аб рабоце жывёлагадоўчых саўгасаў".

Зьвесткі, якія пакуль што паступаюць з раёну, сьведчаць аб тым, што работа па конкурсу разгорнута слаба. Клясавы вораг, які імкнецца сарваць нашу работу па рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, праяўляе сябе і тут. Кулацкія падпявалы распускаюць чуткі аб нявыгоднасьці сьвінагадоўлі і вядуць агітацыю супроць разьвіцьця сьвінагадоўлі. Даць адпор клясаваму ворагу і яго агентуры—баявая задача савецкіх і партыйных органаў і ўсёй грамадзкасьці. Але ня ўсюды клясавы вораг атрымлівае належны адпор. Ня ўсюды работа па конкурсу разгорнута належным чынам.

Як прыклад безадказных адносін да конкурса варта прывесьці Пухавіцкую райгазэту „За калгасы", якая абмежавалася зьмяшчэньнем маленькага артыкульшчыка аб тым, што „райза і рэдакцыя ўключыліся ў конкурс", не дадумелася нават зьмясьціць умовы конкурса. Райгазэта „За калгасы" адсылае чытачоў да „Зьвязды" ад 16 красавіка, дзе зьмешчана пастанова Наркамзему аб правядзеньні конкурса.

Падобныя зьявішчы можна наглядаць у цэлым радзе другіх раёнаў, дзе вакол конкурса не мабілізавана грамадзкасьць і ўмовы конкурса шырока не папулярызаваны сярод усіх сьвінароў раёна.

Такім апартуністычным адносінам да важнейшай кампаніі трэба пакласьці канец. Конкурс на лепшага сьвінара зьяўляецца справай усёй партыйнай і савецкай грамадкасьці.

**Турэцкі.**

## У АДКАЗ НА ПАСТАНОВЫ ПАРТЫІ І ЎРАДУ ПАШЫРЫЛІ ПАСЕЎНУЮ ПЛОШЧУ

(*Полацкі раён*)

Калгас „Ідэал", Ветрынскага сельсавету, дзякуючы правільнай арганізацыі працы на аснове пастаноў партыі і ўраду на 23 га мая выканаў плян сяўбы па зерневых культурах з перавыкананьнем. Так, пасеяна аўса замест 48—55 *га*, ячменю замест 28—30 *га*, гароху замест 12—15,5 *га*, вікі замест 21—21,75 *га*. У вызначаны тэрмін калгас абавязаўся выканаць поўнасьцю сяўбу ільну ў 47 *га* і бульбы ў 44 *га*.

Прапрацаваўшы пастановы партыі і ўраду аб збожжазагатоўках, мясазагатоўках, калгасным гандлі хлебам і мясам, а таксама новы закон аб сельскагаспадарчым падатку, калгас падрыхтаваў глебу і прыступіў да засеву сустрэчнага пляну па аўсу ў 10 *га* і па кармавых травах у 30 *га*.

З 27-га мая ўсе паляводчыя брыгады калгасу пераключыліся на дапамогу адстаючым калгасам у сяўбе—„Перамога" і „Свабода".

Калгас „Чырвоны Молат" 25-га мая рапартаваў аб поўным выкананьні пляну пасеўкампаніі.

Заслухаўшы інфармацыю аб абвешчаным конкурсе на хутчэйшае і лепшае правядзеньне сяўбы калгасамі, саўгасамі, сельсаветамі і раёнамі,—калгасьнікі гэтых сельскагаспадарчых арцеляй заявілі аднадушным уключэньнем у конкурс, падвойваньнем тэмпаў сяўбы.

**Анатоль Шустры.**

# АБ ПРАВЯДЗЕНЬНІ АГРАЗААТЭХНІЧНАГА ПАХОДУ

## Пастанова сакратарыяту ЦК КП(б)Б

1. У мэтах мабілізацыі шырокіх мас рабочых саўгасаў, МТС і калгасьнікаў вакол задач па ауладаньні агразаатэхнікай і ўкараненьні яе ва ўсе працэсы саўгаснай і калгаснай вытворчасьці,—абвясьціць з 1 чэрвеня агразаатэхнічны масавы паход.

Агразоатэхнічны паход праводзіць вакол канкрэтных задач па лепшым доглядзе ўраджаю, жывёлы і маладняка, падрыхтоўкі і правядзеньня асеньняй сяўбы і правядзеньня праполачнай і уборачнай кампаній.

2. Для апэрацыйнага кіраўніцтва і правядзеньня агразаатэхнічнага паходу стварыць пры НКЗ цэнтральны штаб у складзе т. т.: **Рачыцкі** (старшыня штабу), **Паніматка** (намесьнік), **Цішкевіч** (НКЗ), **Стрэле** (Калгасцэнтр), **Лётнікаў** (Агітмасавы аддзел ЦК КП(б)Б), **Багуслаўскі** (Культпроп ЦК КП(б)Б), **Барысевіч і Белаусаў** (навукова-дасьледчы інстытут), **Цішкоў** (Трактарацэнтр), **Казірэўскі** (Белпрамтрэст), **Туркін** (Сьвінаводтрэст), **Махлюк** (Белплодагародніна), **Кавалёў** (ЦСПСБ), **Усьмінскі** (ЦК ЛКСМБ), **Лаўкет** („Зьвязда“), **Лебедзеў** („Калгасьнік Беларусі“), **Маставы** („Савецкая Беларусь“), **Кабакоў** („Акцябр“), **Раманоўскі** („Орка“).

У раёнах таксама стварыць раённыя штабы в прадстаўнікоў раённых устаноў і арганізацый.

3. Прапанаваць НКЗ, пад адказнасьць т. **Рачыцкага**, разам з цэнтральным штабам у трохдзённы тэрмін распрацаваць канкрэтны плян агразаатэхпаходу і пасьля ўзгадненьня яго з агітмасавым і культпрападдзеламі ЦК КП(б)Б даслаць раёну з такім разьлікам, каб плян правядзеньня паходу быў на мясцох не пазьней 1 чэрвеня 1932 г.

4. Прапанаваць ГК, РК і ячэйкам КП(б)Б уключыцца ў правядзеньне агразаатэхпаходу, праводзячы яго як найважнейшае гаспадарча-палітычнае мерапрыемства, разгарнуўшы сацспаборніцтва і ўдарніцтва паміж раёнамі, саўгасамі, МТС, калгасамі і брыгадамі на лепшае правядзеньне агразаатэхпаходу, Наркамзему выдзеліць спэцыяльны фонд прэміяваньня за лепшае правядзеньне агразаатэхпаходу.

5. Агразаатэхнічную прапаганду праводзіць арганічна-зьвязана в вытворчасьцю саўгасаў, МТС і калгасаў пад лёзунгам: „Кожная вытворчая брыгада—агразаатэхнічны гурток“.

6. Белдзяржвыдавецтву, пад адказнасьць т. **Некрашэвіча**, і навукова-дасьледчаму інстытуту, пад адказнасьць т. **Барысевіча**, забясьпечыць выданьне навукова-агразаатэхнічных падручнікаў, праграм і літаратуры ў дапамогу агразаатэхнічнаму гуртку.

Адначасова з гэтым праверыць прасоўваньне наяўнай агразаатэхнічнай літаратуры ў саўгасы, МТС і калгасы.

7. Белрадыёцэнтру і Белдзяржкіно разам з цэнтральным штабам правесьці рад мерапрыемстваў па папулярызацыі агразаатэхнічнага паходу.

8. Цэнтральнаму, раённаму і нізавому друку разгарнуць шырокае асьвятленьне агразаатэхпаходу. Сэктару друку ЦК КП(б)Б даць апэрацыйнае заданьне раённаму, нізавому друку аб яго ўдзеле ў агразаатэхнічным паходзе.

9. Пастанову апублікаваць у друку.

# Вышэй тэмпы сяўбы тэхкультур, бульбы, кармовых траў. Кожны гэктар павінен быць засеяны ў тэрмін

**Барацьбу за тэхкультуры паставіць у цэнтр увагі.**

БССР—адзін з важнейшых раёнаў Саюзу тэхнічных культур. У выніку няўхільнай барацьбы за генэральную лінію партыі мы дасягнулі вялізарнейшых посьпехаў у ператварэньні адсталай, дробна-сялянскай ускраіны царскай Расіі ў адзін з важнейшых раёнаў тэхкультур Савецкага Саюзу. Гэтыя вялізарнейшыя дасягненьні відаць з таго, што калі яшчэ ў 1930 годзе мы засявалі плошчу пад лён і каноплі ў 153.000 *га*, то ў 1932 г. засяваем плошчу пад лён і каноплі ў 365.024 *га*.

У мінулым 1931 г. мы мелі 27 МТС па ўсёй БССР, а ў гэтым годзе мы маем толькі спэцыяльна-ільнаводных МТС 23, а па ўсёй БССР—57 МТС. БССР пакрываецца густою сеткаю заводаў па першачарговай перапрацоўцы ільну і канапель. Лік гэтых заводаў з кожным годам павялічваецца, што ад нас вымагае яшчэ больш прыкласьці сілы на забясьпечаньне сыравінай гэтых заводаў, на поўнае і своечасовае выкананьне пляну сяўбы тэхкультур, на барацьбу за павышэньне ўраджайнасьці тэхкультур—ня менш як 2,6 *цнт* ільна-валакна з кожнага *га* і валакна канапель ня менш як 5,1 *цнт* з *га*.

Гэтага мы дасягнем толькі на аснове штодзеннай барацьбы за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, пры перанясеньні цэнтру цяжару ў брыгаду пры барацьбе за ўраджай, своечасовы пасеў, уборку і перапрацоўку тэхкультур, пры штодзенным апэрацыйным кіраўніцтве і дапамозе брыгадзіру. Гэта павінны ведаць усе мясцовыя арганізацыі і ў першую чаргу работнікі, якія непасрэдна працуюць у галіне калгаснага будаўніцтва.



Калгасьнік перад выездам у поле (калгас імя Будзённага, Дрысенскі раён).

Калі-ж возьмем даныя ходу сяўбы, то яскрава відаць, што апарацыйнасьць у рабоце адсутнічае ў радзе раёнаў. Некаторыя мясцовыя работнікі недастаткова эразумелі палітычна-гаспадарчае значэньне сваячасовага выкананьня сяўбы тэхкультур.

Лічбы выкананьня пасеву на 25 мая аб гэтым выразна гаворащь. Плян пасеву ільну па БССР складаецца з 315.024 *га* і плян пасеву канапель з 50.000 *га*. На 25 мая 1932 г. плян пасеву ільну выкананы ўсяго толькі на 19,1 проц., канапель на 8,3 проц. З гэтага ліку калгасамі пасеяна: канапель 10.903 *га*, што складае 7,8 проц. пляну, лёну—37.759 *га*, або 20,5 проц.; аднаасобным сэктарам пасеяна: лёну 22.014 *га*, што складае 17,2 проц., канапель 2.251 *га*, або 9,9 проц. Саўгасамі засеяна лёну 350 *га* або 11 проц. ад пляну.

Бульбы ў гэтым годзе неабходна засеяць 693.804 *га*, пасеяна 264.107 або 38,1 проц. пляну. З гэтага ліку калгасамі пасеяна 103.253 *га*, саўгасамі 9338 *га*, аднаасобным сэктарам 33.904 *га*.

У пасеўную кампанію 1932 году патрэбна засеяць такіх кармавых аднагадовых траў, як сэрадэля, віка і інш. 221.127 *га*. Па вестках Наркамзему БССР на 25 мая засеяна 42.856 *га*, ці 19,4 проц. ад заданьня. З гэтага ліку калгасы засеялі 22.219 *га*, аднаасобны сэктар засеяў 8.602 *га* і саўгасы засеялі 12.035 *га*, што складае 24,9 проц. выкананьня.

Гэтыя лічбы зусім ясна паказваюць на недапушчальна марудныя тэмпы сяўбы тэхнічных культур па рэспубліцы.

Больш поўны малюнак недапушчальна-марудных тэмпаў сяўбы тэхкультур будзе, калі мы пакажам ход сяўбы ў некаторых паасобных раёнах. У раёнах, якія мы прыводзім ніжэй,— **пагражаючае становішча з пасевам тэхкультур**. Напрыклад, Сураскі раён павінен засеяць па пляну плошчу пад лён у 5.922 *га*, а было засеяна на 20 мая ўсяго толькі 62 *га*—1 проц. выкананьня (каноплі яшчэ ня сеены). Нельга забываць і таго, што да такіх чарапашых тэмпаў сяўбы ў Сураскім раёне адносіцца і плян па засыпцы насенных фондаў па тэхнічных культурах, які выканан усяго на 30,4 проц.

Расонскаму раёну па пляне патрэбна засеяць тэхкультур 3.850 *га*. На 20 мая было засеяна ўсяго 75 *га*, што складае 1,9 проц. выкананьня пляна. Плян па засыпцы насенфондаў тэхнічных культур выканан усяго толькі на 26,7 проц.

Крупскі раён павінен засеяць лёну 6.179 *га*, канапель—369 *га*. На 20 мая было пасеяна лёну ўсяго 104 *га*, або 1,6 проц. ад заданьня, канапель зусім не пасеяна. Плян засыпкі насенных фондаў тэхнічных культур у Крупскім раёне выканан усяго толькі на 18,5 проц.

Гарадоцкаму раёну па пляну неабходна засеяць плошчу пад тэхкультуры ў 10.875 *га*, на 20 мая было пасеяна 446 *га* лёну, што складае 4,1 проц. ад заданьня, каноплі зусім не пасеяны. Плян засыпкі насенных фондаў тэхнічных культур выкананы ўсяго на 27,6 проц.

Вушацкаму раёну неабходна засеяць плошчу пад лён у 5.225 *га*, пасеяна—403 *га*. або 7,7 проц. ад пляну, каноплі зусім не пасеяны. Плян засыпкі насенных фондаў тэхнічных культур выканан на 29,2 проц.

Такія жывёлагадоўча-канапляводныя раёны, як Хойніцкі, Рэчыцкі і інш., таксама не даюць патрэбных тэмпаў па засеву тэхнічных культур. Напрыклад, Хойніцкі раён павінен па пляну засеяць канапель 1.515 *га*, а пасеяна на 20 мая 447 *га*, што складае ўсяго толькі 10,6 проц. ад пляну. Плян засыпкі насеннага фонду па тэхнічных культурах выкананы ўсяго толькі на 30 проц.

Плян пасеву канапель у Рэчыцкім раёне—1.257 *га*, на 20 мая было пасеяна ўсяго толькі 254 *га* або 4,4 проц. заданьня. Засыпка насеннага фонда выканана ўсяго на 37,7 проц.

Ня лепш абстаіць справа з пасевам бульбы. Вушацкаму раёну неабходна засеяць бульбы 4.632 *га* пасеяна на 20 мая ўсяго толькі 390 *га*, ці 8,6 проц Гарадоцкаму раёну патрэбна засеяць 5.932 *га*, засеяна 130 *га* ці 2,2 проц. Расонскаму раёну патрэбна засеяць 1.701 *га*, засеяна 72 *га* або 4,2 проц. заданьня.

Прыведзеныя лічбы з усёй выразнасьцю паказваюць на недапушчальна-марудныя тэмпы сяўбы тэхнічных культур.

„Ня гледзячы на неаднаразовыя ўказаньні ЦК аб большай мабілізацыі ўвагі партыйных арганізацый да аднаасобнага сэктара, яшчэ і цяпер у радзе раёнаў мае месца недаацэнка ролі аднаасобніка і неразуменьне, што ўвесь плян сяўбы ня можа быць пасьпяхова выканан без арганізацыі і аднаасобніка-бедняка і серадняка, удзельная вага якога складае каля 50 проц. у пляне сяўбы“ (з пастановы ЦК КП(б)Б ад 27-V—32 г.).

У выніку такое недаацэнкі ў цэлым радзе раёнаў яшчэ і на сёнешні дзень ня выконваюць паказаньняў ЦК аб сваячасовым адводзе зямель аднаасобнаму—бядняцка-серадняцкаму сэктару.

Мы павінны крута ўзьняць тэмпы сяўбы. Патрэбна прыкласьці ўсе сілы на мабілізацыю шырокіх пралетарскіх мас, калгасьнікаў, беднякоў і сераднякоў-аднаасобнікаў на сваячасовае выкананьне і перавыкананьне пляпаў пасеву. Мясцовыя партыйныя арганізацыі павінны яшчэ больш прыкласьці сілы на ўзмацненьне сяўбы. Неабходна дабівацца арганізацыі буксірных брыгад, пасылаць іх у адстаючыя калгасы.

Зараз, калі перад намі ва ўсю шырыню стаіць задача па забясьпечаньні сыравінаю сеткі заводаў першапачатковай пераапрацоўкі тэхкультур, мы ня можам і не павінны замаруджваць тэмпаў сяўбы тэхкультур. Гэта павінны памятаць усе партыйныя арганізацыі і, у першую чаргу, работнікі ільнаводных раёнаў.

Вышэй тэмпы сяўбы тэхкультур, бульбы, кармовых траў!

Барацьбу за тэхкультуры паставіць у цэнтр увагі.

**М. Варанецкі.**



**Сваячасовы і якасны сеў—падвышае ўраджайнасьць палёў.**

# Для чаго і які севазварот нам патрэбен *(Працяг)*

## Севазварот павінен забясьпечыць выкананьне і перавыкананьне плянавага заданьня

Зусім зразумела, што ня ўсякі севазварот нам патрэбен. Нам патрэбен толькі такі севазварот, які-б забясьпечыў выкананьне і перавыкананьне плянавага заданьня, як з колькаснага, так і якаснага бакоў, ці інакш кажучы, які-б забясьпечыў выкананьне і перавыкананьне плянавага заданьня ў адносінах разьмераў пасеўнай плошчы, склада культур і падвышэньня іх ураджайнасьці. Гэта значыць, што ў ільнаводчым, напрыклад, саўгасе севазварот павінен так будавацца, каб забясьпечыць усе магчымасьці для атрыманьня найбольш магчымага пры сучаснай нашай тэхніцы проц. лёну ў пасеве, найбольшай ураджайнасьці лёну. У сьвінаводным саўгасе севазварот павінен забясьпечыць найбольшы проц. бульбы і зернавых культур для корму сьвіней і найбольшы ўраджай гэтых культур.

## Севазварот павінен быць увязан з спэцыялізацыяй сельскай гаспадаркі

Гэта значыць, што, напрыклад, у ільняна-малочным раёне севазварот кожнага саўгасу альбо калгасу павінен так будавацца, каб садзейнічаць падвышэньню ўраджайнасьці лёну, як з колькаснага, так і з якаснага бакоў; у жывёлагадоўча-бульбяным раёне—падвышэньню ўраджайнасьці кармовых культур і бульбы.

Прычым, зразумела, што, скажам, у ільняна-малочным раёне могуць быць саўгасы альбо калгасы бульбяна-жывёлагадоўчага напрамку вакол ужо існуючых бульба-апрацовачных заводаў. Напрыклад: Талачынскі раён у цэлым—ільняна-малочны раён. Але ў гэтым раёне ёсьць крухмальны завод. Зразумела, каб забясьпечыць гэты завод бульбай, неабходна вакол яго спэцыялізаваць некалькі саўгасаў і калгасаў у бульбяна-жывёлагадоўчым напрамку. Але ў цэлым па ўсім Талачынскім раёне севазварот у саўгасах і калгасах павінен так будавацца, каб увогуле забясьпечыць найбольшую плошчу лёну і найбольш высокую яго ўраджайнасьць. Разам з тым, севазварот павінен забясьпечыць неабходную згодна плянавага заданьня колькасьць зернавых культур і патрэбную колькасьць вітамінных (зялёных) і бялковых кармоў для нашай жывёлы.

## Севазварот павінен забясьпечыць найвышэйшую вытворчасьць працы

Гэта значыць, што севазварот павінен забясьпечыць атрыманьне патрэбнай нам па пляне сельскагаспадарчай прадукцыі (напрыклад, лёну ці мяса), найбольшую колькасьць у перакладзе на адзін працоўны дзень рабочага саўгасу альбо калгасьніка з найменшымі затратамі працы і сродкаў вытворчасьці (насеньня, угнаеньня, дзён працы, машын, коняй і г. д.) А таму, севазварот павінен так будавацца, каб забясьпечыць найлепшую організацыю працы і сродкаў вытворчасьці ці інакш кажучы:

1. Каб нашы калгасы змаглі забясьпечыць патрэбную для нашай народнай гаспадаркі колькасьць адходнікаў у прамысловасьць і будаўніцтва, і ў той жа час, каб вытворчы плян у сваім калгасе быў выкананы сваімі сіламі поўнасьцю і ў тэрмін.
2. Каб у нашых саўгасах, МТС і калгасах маючыяся машыны і другі сельскагаспадарчы мёртвы інвэнтар былі рацыянальна выкарыстаны.

## Севазварот павінен быць рухомым

Ва ўмовах нашай сацыялістычнай плянавай гаспадаркі севазварот павінен будавацца такім чынам, каб забясьпечыць усе магчымасьці для найбольш пасьпяховага выкананьня і перавыкананьня плянавых заданьняў у адпаведнасьці з тэмпамі сацыялістычнага будаўніцтва. Севазварот павінен прадбачыць магчымасьці пашырэньня пасеву тых культур (і павышэньня іх ураджайнасьці), якія патрабуюцца нам кожны год для задавальненьня народна-гаспадарчых патрэб Саюзу. Прычым, каб забясьпечыць магчымасьць апрацоўкі калгасных і саўгасных палёў буйнымі машынамі (трактарамі і прычэпным інвэнтаром), каб забясьпечыць магчымасьць пашырэньня тых культур, якія патрабуюцца нам у працэсе сацыялістычнага будаўніцтва,—неабходна лік палёў у севазвароце ўстанаўліваць невялікі—прыблізна 5-6 палёў без шматгадовых траў у пасеве і 9-10 палёў пры пасеве шматгадовых траў.

## Чаму ў саўгасах севазвароты павінны быць больш спэцыялізаванымі, чым у калгасах

У нашых саўгасах, як гаспадарках пасьлядоўна сацыялістычнага тыпу, якія зьяўляюцца ня толькі ўзорам буйнай сацыялістычнай сельскай гаспадаркі а і фабрыкамі хлеба і мяса, севазварот у сучасны момант павінен быць больш спэцыялізаваным, чым ся ў калгасах. Другімі словамі, у ільнаводных саўгасах павінен быць большы процант лёну, чымся ў ільнаводных калгасах. У канапляводных саўгасах—большы процант канапель, чымся ў канапляводных калгасах. У сьвінаводчых саўгасах—больш высокі процант бульбы і зернавых для корму сьвіней, чымся ў сьвінаводных калгасах. І гэта зразумела, бо саўгасы здаюць дзяржаве ўсю сваю прадукцыю. Калгасы-ж, апрача выкананьня плянавага заданьня па здачы (продажу) дзяржаве пэўнай часткі сваёй прадукцыі, павінны забясьпечыць сябе ў асноўным усімі харчовымі культурамі і ўсімі кармамі для сваёй жывёлы.

## Пры ўстанаўленьні севазваротаў мы не павінны забываць прыродных умоў

Прыродныя ўмовы мы павінны выкарыстоўваць. Гэта значыць, што калі глеба будзе аднолькавая (напрыклад, сугліністая) у ільнаводным саўгасе альбо калгасе, у сьвінаводным саўгасе альбо калгасе, а таксама ў гародна-малочным саўгасе альбо калгасе, то, ня гледзячы на тое, што гэтая глеба добрая для культуры лёну ва ўсіх названых гаспадарках, мы аднак павінны сеяць на ёй лён, як галоўную культуру (і потым другія культуры, прадугледжаныя плянам, напрыклад, травы, харчовыя, зернавыя і г. д.) толькі ў ільнаводным саўгасе альбо калгасе. У сьвінаводным-жа саўгасе на той-жа глебе галоўнымі культурамі будуць бульба і зернавыя для корму сьвіней і потым другія культуры, прадугледжаныя па пляну. А ў сьвінаводным калгасе апрача бульбы і зернавых культур для сьвінагадоўлі вялікае месца будуць займаць харчовыя культуры для патрэб калгасьнікаў і кармавыя культуры для другіх відаў жывёлы (абагуленай і неабагуленай). Нарэшце ў агародна-малочным саўгасе галоўнымі культурамі будуць садавіна, гародніна і травы для малочнай жывёлы.

**А. Гарэлікаў.**

*(Канец).*

# Аб праполачнай кампаніі па ільну

У мэтах павышэньня ўраджайнасьці ільну, барацьбы з сарнякамі, лепшага правядзеньня ручной і машыннай уборкі і далейшай першапачатковай апрацоўкі і тым самым атрыманьня належнай якасьці прадукцыі народны камісарыят земляробства ў дадатак да ранейшых паказаньняў пастанаўляе:

1. Правесьці ва ўсіх саўгасах, калгасах, аднаасобных гаспадарках полку ўсіх пасеваў ільну ў першую чаргу на мяккіх глебах і ў частках, падлягаючых машыннай уборцы.

2. Полку вытвараць на 15—20 дзень пасьля пасеву, калі расьліны дасягаюць 10—15 *см* росту; пэрыяд полкі ўстанавіць у 10 дзён, у выпадках большай засьмечанасьці пасеву вытвараць другую полку праз 10—15 дзён пасьля першай полкі.

3. Правесьці абкашваньне меж, канаў, абочын шляхоў у пэрыяд кветнаваньня і пасьпяваньня насеньня пустазельля, скарыстоўваючы ўсё пустазельле на сілас для скармліваньня жывёлай або ў выпадку скашваньня пасьля красаваньня, для кампаставаньня на ўгнаеньне.

4. Прапанаваць загадчыкам райза забясьпечыць правядзеньне праполачнай кампаніі шляхам разгортваньня масавай работы вакол гэтай кампаніі, высьвятленьня гэтага пытаньня ў мясцовым друку, унядрэньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва, мабілізуючы ўвагу на якаснае выкананьне праполкі і завяршыць праполачную кампанію дэкаднікам агляду ільняных пасеваў у парадку ўзаемнай праверкі якасьці полкі паміж калгасамі, сельсаветамі, раёнамі.

5. Прасіць СНК БССР даць адпаведныя паказаньні ўпаўнаважаным па БССР, камітэту загатовак пры СПА аб выдзяленьні і завозу прамтавараў за кошт адпускаемых для кантрактацыі фондаў для стымуляваньня пасьпяховага правядзеньня праполачнай кампаніі.

6. Абавязаць загадчыкаў райза сваячасова прадстаўляць справаздачныя зьвесткі аб ходзе праполачнай кампаніі, згодна ўстаноўленай НКЗБ форме.

Нарком земляробства БССР **Рачыцкі.**

# БАРАЦЬБА ЗА ТЭРМІН І ЯКАСЬЦЬ ПРАПОЛКІ—БАЯВАЯ ЗАДАЧА СТАЛАЙ ПАЛЯВОДЧАЙ БРЫГАДЫ Ў КАЛГАСЕ

Сьледам за севам павінен ісьці пільны нагляд за пасеянымі палямі. Барацьба з сарнякамі зьяўляецца рашаючым мерапрыемствам у цэлым радзе іншых мерапрыемстваў па ўздыму ўраджайнасьці. Урокі мінулага году, калі з прычыны недаацэнкі важнасьці работ па правядзеньні догляду за пасевамі раду калгасаў былі нанесены значныя страты, у гэтым годзе павінны быць поўнасьцю ўлічаны. Трэба не забываць, што пэрыяд праполачных работ сумяшчаецца з іншымі, ня менш важнымі работамі па папаравай і сенаўборачнай кампаніі, з работамі да ўборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі, таму барацьба за максымальна кароткія тэрміны правядзеньня ўсіх гэтых работ побач з барацьбой за высокую якасьць іх, павінна стаць асноўнай задачай сталай паляводчай брыгады.

Гэтая задача пасьпяхова будзе вырашана толькі пры ўмовах, калі брыгада ўжо ў пэрыяд веснавой сяўбы добра прадумае пытаньне правільнай растаноўкі сваёй рабочай сілы па паасобных вучастках работ і па тэрмінах правядзеньня іх. Сурова прадуманы, дасканала прапрацаван каляндарны плян работ—залог пасьпяховага правядзеньня праполкі. Яшчэ да пачатку праполкі кожны калгасьнік павінен абавязкова актыўна ўдзельнічаць у распрацоўцы пляну-нарады на пэрыяд праполкі і ўборкі з тым, каб ведаць, якія работы, па якой культуры, у якім аб'ёме і ў які тэрмін павінны быць забясьпечаны брыгадай, якая якасьць работ патрабуецца ад яго, нормы выпрацоўкі і ацэнку ў працаднёх па кожным відзе работ. Пытаньне пераключэньня паасобных зьвеньняў брыгады, паасобных калгасьнікаў з адной работы на другую асабліва ўважліва павінна быць прапрацавана брыгадай.

Брыгада павінна паставіць перад сабой адну задачу, захаваўшы высокую якасьць работ, дабіцца да пачатку сенаўборкі на сенажацях, сканчэньня ў максымальна ўшчыльненыя тэрміны ўсіх асноўных работ па догляду за пасевамі, па падрыхтоўцы папараў, па падрыхтоўцы да ўборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі.



Каровы чырвона-беларускай пароды (саўгас „Русіновічы“).

## Вычысьціць сарнякі з калгасных палёў

Гэта асабліва важна ў першыя дні росту расьлін. Ня даць разьвівацца сьмяцьцёвым расьлінам, гэта значыць, захаваць спажыўныя матэрыі для пасеянай культуры, гэта значыць, зьнішчыць няспрыяючыя ўмовы для росту апошняй і ў адносінах сьвятла, вільгаці, паветра. Якія практычныя мерапрыемствы павінны быць праведзены?

1. **Па бульбе.** Зараз-жа пры зьяўленьні ўсходаў, калі апошнія дасягнуць 3—5 *см* вышыні, правесьці баранаваньне бульбы. На вучастках кепска апраца-

ваных, або з цяжкай суглінiстай ападзоленай глебай, дзе глеба вельмі хутка ўплатняецца і ствараe скарынку, баранаваньне павінна быць праведзена праз 10—15 дзён пасьля пасадкі, не чакаючы зьяўленьня ўсходаў. На вучастках, засеяных бульбасаджалкай, або пад маркэр (па квадратнаму спосабу) замест баранаваньня патрэбна зрабіць пры зьяўленьні ўсходаў рыхленьне глебы коннымі планэтамі, прычым, пры пасадцы пад маркэр у двух напрамках. Калі расьліны дасягнуць 15—20 *см*—правесьці першую абсыпку бульбы з апраўкай засыпаных пры абсыпцы лістоў. Першую абсыпку бульбы, пасаджаную пад маркэр, рабіць у 2 напрамках. Да кваткаваньня бульбы і змыканьня лістоў павінна быць праведзена другая абсыпка, а пры дажджлівым надвор'і і на больш мокрых вучастках і трэцяя. Увесь час трэба сачыць, каб у радкох бульбы ня было сарнякоў; безадкладна выполваць, як толькі яны зьявяцца.

2. **Па караньплодах.** Праз 12—15 дзён пасьля пасеву правесьці першую полку і праз 7—10 дзён пасьля зьяўленьня ўсходаў—другую. Полку праводзіць у асноўным коннымі планэтамі, але для гэтай мэты можна прыстасаваць і іншыя машыны (радковыя сеялкі, конныя граблі, спружыновыя культыватары, ручныя планэты і г. д.). Полку асабліва больш значных па разьмерах плошчаў неабходна мэханізаваць. Для гэтага павінны быць скарыстаны ўсе магчымасьці калгасу. Ручныя планэты патрэбна прыстасаваць да коннай цягі, для чаго тры ручных планэты прымацоўваюцца да адной планкі (жалезнай або з дрэва) і да адной агульнай стальвагі прымацоўваецца два такіх зьвяна, гэта значыць, што для працы адным канём на роўнай плошчы магчыма прыстасаваць 6 ручных планэтаў. Акрамя таго, для рыхленьня магчыма прыстасаваць конныя граблі, для чаго патрэбна толькі вынуць з грабель некалькі зубоў, якія прыходзяцца на радкі пасеваў, радковыя сеялкі, расставіўшы адпаведным чынам сашнікі, спружыновыя культыватары, або лушчыльнікі, прыстасаваўшы спружыновыя зубы і карпусы лушчыльнікаў да міжрадзьдзяў. Пасьля таго, як расьліны дасягнуць 2—4 лісткоў, патрэбна правесьці першую прарыўку караньплодаў, заставіўшы расьлінкі на адлегласьць адна ад другой у 8—12 *см* і другую канчатковую прарыўку праз 7—10 дзён пасьля першай з адлегласьцю паміж расьлінамі: для буракоў на 25-30 *см*, турнэпса і бручкі—20-25 *см* і морквы—15-20 *см*.

3. **Па ільну.** Пры стварэньні ў часе ўсходу ільну скарынкі, правесьці лёгкае баранаваньне глебы перавернутай бараной, а калі ўсходы дасягнуць 10-15 *см* вышыні, прыблізна ў 2-3-тыднёвым узросьце, правесьці полку лёну; на старапахатных глебах, як толькі зьявіцца зноў сарняк, пасьля першай полкі правесьці другую полку. У дажджлівае надвор'е і на вільготных глебах полку праводзіць нельга. Сачыць за тым, каб у пасевах лёну ня было павілікі і калі апошняя будзе знойдзена, неабходна безадкладна перакапаць глебу і пракаліць спальваньнем гальля на месцы, дзе расла павіліка.

4. **Па каноплях.** Сачыць, каб у часе ўсходаў ня было скарынкі і сарнякоў, асабліва на старапахатных засьмечаных, упяршыню адведзеных пад пасеў канаплі вучастках.

5. **Па сіласных.** Сіласныя культуры (кукуруза, сланэчнік) патрабуюць баранаваньня зараз-жа пры зьяўленьні ўсходаў, рыхленьня планэтам, або абсыпнікам пры зьяўленьні першай пары лісткоў і прарэджваньня на адлегласьці 10-15 *см* паміж расьлінамі. У выпадку ўшчыльненьня глебы робіцца і другое рыхленьне.

6. **Па насенаводзтву.** Правесьці ня менш двухразавай полкі і рыхленьня насеньнікаў лугавых траў, высадак караньплодаў і гародных культур; ня менш аднаго разу полкі бабовых, сэрадэлі, ячменю і пшаніцы (азімай і яравой).

Работа па кожнаму з відаў догляду за пасевамі павінна быць праведзена сваячасова без расьцягваньня, на працягу ня больш 3-5 дзён. Акрамя таго, трэба ведаць, што ў першыя дні гэтага пэрыяду неабходна ўгноіць і ўзараць папар—толькі раньні папар забясьпечыць высокі ўраджай.

Рамонт уборачных сельскагаспадарчых машын і інвэнтару, транспарту, шляхоў і мастоў, тары таксама павінны быць поўнасьцю скончаны ў гэтым пэрыядзе і не пазьней 15 чэрвеня. У гэтым-жа пэрыядзе патрэбна поўнасьцю падрыхтаваць складачныя памяшканьні для хаваньня насенных, фуражных і іншых фондаў, адрамантаваць, ачысьціць ад сьмецьця, правесьці дэзынфэкцыю іх. Кожны брыгадзір павінен прыняць усе захады непасрэдна з сваёй брыгадай, або дабіцца праз праўленьне калгасу, каб усе гэтыя работы абавязкова былі праведзены да пачатку сенаўборкі.

Адказнейшым момантам у штодзеннай рабоце брыгадзіра павінна быць чоткая расстаноўка рабочае сілы ўнутры брыгады. Нарад праўленьня калгасу на дэкаду павінен быць добра вывучан брыгадай і сілы расстаўлены так, каб заданьне і па тэрмінах і па якасьці было перавыканана. Трэба, каб кожны калгасьнік ведаў на якой рабоце і дзе ён будзе працаваць кожны дзень і як будзе ўлічана яму выкананая ім работа.

Уздымам творчай ініцыятывы, шырокай хвалі сацспаборніцтва і ўдарніцтва ўнутры брыгады, паміж груп, паасобных калгасьнікаў з іншымі брыгадамі забясьпечым посьпех правядзеньня прапалачнай кампаніі і падрыхтоўкі да ўборачнай і асеньняй сяўбы, а гэта значыць, высокі ўраджай, высокую даходнасьць і таварнасьць калгаснай гаспадаркі, свой дабрабыт. Дамо рашучы адпор кулацкім спробам сарваць высокі сацыялістычны ўраджай.

А. Лашкевіч.

**Ніводнага сарняка не павінна быць між пасеяных культур. Сваячасова вытварыць прапалку**

# ЗА АХОВУ САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ЎРАДЖАЮ

Ахова ўраджаю зьвязана непасрэдна ня толькі са зьнішчэньнем шкоднікаў і хвароб сельскагаспадарчых расьлін, але ня ў меншай меры і з барацьбой з сьмяцьцёвай расьліннасьцю. Гэтыя два пытаньні цесна зьвязаны паміж сабой і таму ў мерапрыемствах барацьбы за ахову сацыялістычнага ўраджаю павінны знайсьці адначасова свае вырашэньне.

Зусім зразумела што неразрыўнасьць гэтых двух пытаньняў, калі сказаць, што асноўным рассаднікам шкоднікаў і хвароб сельскагаспадарчых расьлін зьяўляецца сьмяцьцёвая расьліннасьць, якая знаходзіць сабе месца як у пасевах, так і ў межах, канавах і палявых дарогах. Большасьць шкоднікаў і хвароб месцам свайго размнажэньня выбіраюць галоўным чынам сьмяцьцёвыя расьліны. Так, напрыклад: азімая соўка адкладвае свае яйкі на асот і бярозку, ярвая соўка для гэтай мэты выбірае аўсюк, асот і інш. Лугавы матылёк—шкоднік гародаў выводзіцца на лебядзе і бярозцы. Іржа на зернавых культуры пераходзіць з пырніку і аўсяніцы, на авёс пераходзіць сажа (галаўня) з аўсюка і інш.

На працягу доўгіх часоў у барацьбе за існаваньне сьмяцьцёвая расьліннасьць набыла высокую жыцьцяздольнасьць і пладавітасьць. Так, у параўнаньні з зернавымі культурамі, якія ў лепшым выпадку даюць з 1 расьліны 2000 зярнят, сьмяцьцёвыя, як, напрыклад, лебяда, дае 100 тысяч зярнят насеньня, а некаторыя, як загнутая шчырыца, да 500 тысяч зярнят.

Насеньне сьмяцьцёвых расьлін захоўвае сваю жыцьцяздольнасьць на працягу 10—12 гадоў і пападае ва ўсходы штогодна толькі частковымі порцыямі. Калі лічыць што сьмяцьцёвыя расьліны высяваюць штогодна вялікую колькасьць насеньня, то можна ўявіць сабе, якія запасы іх накапліваюцца ў глебе. Нагляданьнямі Акад. **Вільямса** было даведзена, што ў пераводзе на 1 *га* пры 20 *см* глыбіні ў глебе ёсьць ад 5—10 тон насеньня лебяды.

Зразумела якую колькасьць спажыўных матэрый і вады сьмяцьцёвыя расьліны спажываюць за лік сельска-гаспадарчых расьлін, а некаторыя з іх, як напрыклад, павіліка, адбіраюць гэта ўжо ў гатовым выглядзе ад лёну і канюшыны. Па нагляданьнях навукова-дасьледчых установаў і спэцыялістаў сьмяцьцёвыя расьліны зьніжаюць ураджайнасьць нашых палёў у сярэднім на 20—30 проц., а па нагляданьнях Мысаўскай дасьледчай станцыі за асобымі гароднымі культурамі вынікі атрымаліся наступныя:

**Ураджай з 1** *га.*

| Культуры | Вучасткі з сыстэматычнай барацьбой са сьмяцьцёвымі расьлінамі | Кантр. вучаст. без барацьбы са сьмяц. расьлін. |
|---|---|---|
| Капуста . . . . . | 54 тоны | 11,5 тоны |
| Памідоры . . . . | 50 „ | 10 „ |
| Цыбуля . . . . . | 11,5 „ | 1,5 „ |
| Моркаў . . . . . | 63 „ | 1,5 „ |
| Буракі . . . . . | 63 „ | 2,6 „ |
| Гуркі . . . . . | 65 „ | 0,8 „ |

На культурах, якія высаджваюцца расадай (капуста, памідоры) засьмечанасьць палёў адбіваецца ў меншай ступені. Але калі дабавіць да гэтага тыя страты, якія наносяць нам шкоднікі і хваробы, звычайна зьнішчаючы цэлыя палі пасеваў, то стане зразумелым, да якой высокай ступені трэба давесьці справу барацьбы са шкоднікамі, хваробамі і сьмяцьцёвымі расьлінамі, з мэтай аховы ўраджаю палёў, садоў і гародаў.

Сацыялістычная рэканструкцыя сельскай гаспадаркі стварае ўсе прадпасылкі для пасьпяховай барацьбы з засьмечанасьцю пасеваў. Суцэльныя масывы, зьнішчэньне межаў, культурная апрацоўка глебы, пасеў чыстасортным насеньнем і рад іншых мерапрыемстваў павінны нанесьці рашучы ўдар засьмечанасьці пасеваў. Але на гэтым застанаўлівацца нельга. Справу аховы ўраджаю трэба паставіць у належаую сыстэму так, каб мы былі здольны папярэдзіць зьяўленьне розных шкоднікаў і хвароб у свой час, прымяняючы прафілактычнае правіла, што „шмат таньней і лягчэй папярэдзіць хваробу, чым яе лячыць“.

Барацьба са шкоднікамі і хваробамі сельска-гаспадарчых расьлін хэмічнымі сродкамі, якую ведуць станцыі па зьнішчэньню шкоднікаў, за апошнія часы заваявала сабе шырокае месца. У бліжэйшыя часы станцыі павядуць барацьбу хэмічнымі сродкамі і супроць сьмяцьцёвых расьлін.

Адначасова са справай аховы ўраджаю хэмічнымі сродкамі, трэба ўдзяліць максымум увагі і мэханічным сродкам барацьбы. Барацьба са шкоднікамі і хваробамі сельска-гаспадарчых расьлін зьяўляецца адным з элемэнтаў агратэхнікі, што патрабуе цеснай увязкі з правядзеньнем усім агратэхнічных мерапрыемстваў, пачынаючы з увядзеньня самога севазвароту, веснавых работ і канчаючы самой уборкай пасеву і зяблевай узпашкай. Асабліва напружанымі элемэнтамі барацьбы са шкоднікамі і хваробамі бываюць месяцы чэрвень—жнівень. У гэты час уся праца па праполцы, прапашцы і інш. работах павінна праводзіцца з разьлікам на большую эфэктыўнасьць зьнішчэньня сьмяцьцёвых расьлін і шкоднікаў.

У памерах кароткага артыкулу цяжка прадугледзець увесь пералік работ па ахове ўраджаю, тым больш, што гэтае пытаньне ёсьць пытаньне павышэньня ўраджайнасьці. Аднак, коратка застановімся на важнейшых відах работ летняга пэрыяду, зьвязаных з аховаю ўраджаю, якія належаць абавязковаму выкананьню ў гаспадарцы:

1. Раньні пасеў культурных расьлін, каб апярэдзіць разьвіцьцё сьмяцьцёвых расьлін.

2. Рыхленьне глебы з часу зьяўленьня як сьмяцьцёвых расьлін, так і культурных (таксама пасьля дажджу, калі стварaецца скарынка).

3. Баранаваньне ўсходаў бульбы ня менш 2-х разоў.

4. Прарэджваньне караньплодаў.

5. Абсыпаньне бульбы і караньплодаў ня менш 2-х разоў.

6. Прапалка ня менш 1 разу лёну, канапель і сіласных.

7. Прапалка ня менш 2-х разоў караньплодаў гародніны.

8. Абквашваньее сьмяцьцёвых расьлін не пазьней іх кветкаваньня на межах, палявых дарогах і канавах.

9. Абквашваньне чужаядных расьлін на сілас.

10. Пасынкаваньне памідораў і тытуню.

11. Ачыстка сенажаці ад хмызьнякоў з забаронай пасьбы жывёлы.

12. Заключэньне дагавароў гаспадаркамі з АБШ[1]).

13. Аб зьнішчэньні шкоднікаў і хвароб сельска-гаспадарчых расьлін.

Прапалачна-прапашныя работы, зьвязаныя са зьнішчэньнем сьмяцьцёвых расьлін патрабуюць вялікай колькасьці рабочай сілы і таму ўсе працэсы трэба максымальна мэханізаваць, трэба выкарыстаць увесь прапалачна-прапашны інвэнтар, як па конскай, так і па трактарнай сіле, які часта застаецца нескарыстаным у поўнай ступені.

Адным з важнейшых пытаньняў, ад якога залежыць посьпех прапалачна-прапашных работ, зьяўляецца ўмелая расстаноўка рабочай сілы. Няўм[illegible]е арганізавана скарыстаць рабочую сілу, часта прыводзіць да дрэнных вынікаў.

Барацьба за ахову ўраджаю патрабуе шырокай масавай работы па аўладаньню агратэхнікі, дасканалага навучэньня шкоднікаў і сьмяцьцёвых расьлін, а таксама мэтадаў барацьбы з імі,—дае пэўную зброю ў рукі для пасьпяховай працы па ахове сацыялістычнага ўраджаю. Па лініі аўладаньня агратэхнікай павінны быць у саўгасах і калгасах арганізаваны спэцыяльныя гурткі. У гэтым напрамку павінны праводзіцца вытворчыя нарады ня менш аднаго разу ў месяц па цэхох і брыгадах, дзе вырашаюцца бягучыя вытворчыя пытаньні. Друк як цэнтральны, так і нізавы, сыстэматычна асьвятляючы бягучыя вытворчыя пытаньні пад кутом гледжаньня асваеньня агратэхнікі і абмену вопытам асобных гаспадарак, зможа аказаць справе аховы ўраджаю вялікую дапамогу.

**А. Сільвестровіч.**

[1]) Акцыянэрнае аб'яднаньне барацьбы са шкоднікамі.

# Шкоднікі ільну і меры барацьбы з імі

Шкоднікі ільну зьяўляюцца адным з важнейшых тармазоў ільнаводзтва. Толькі ва ўмовах буйнай сацыялістычнай гаспадаркі магчыма пасьпяховая барацьба з імі. Работнікі ільнаводных саўгасаў і калгасаў павінны аўладаць тэхнікай барацьбы са шкоднікамі, павінны ведаць, калі, як і якія шкоднікі шкодзяць ільну і як з імі змагацца.

Адным з асноўных шкоднікаў ільну зьяўляюцца ільняныя блошкі (мал. 1). Гэта маленькія цёмнасінія жучкі, якія прыносяць асабліва вялікую шкоду маладым усходам ільну; яны выгрызаюць часткі семядоляй (лісточкаў) ільну, робяць у іх шмат дзірачак, а часам ушчэнт іх зьядаюць (мал. 2). Пашкоджаная расьліна гіне, а калі і разьвіваецца дык вельмі адстае ў росьце і зьніжае выхад валакна. Часам блошка псуе верхавінныя пупышкі ў маладога ільну. У такіх выпадках лён часьцей за ўсё гіне, і даводзіцца рабіць перасевы, што зьвязана з вялікімі стратамі. Асабліва небясьпечна блошка ў сьпёку і сухую пагоду. Тады яна ўзмоцнена харчуецца, хутчэй разьвіваецца і адкладае больш яец. Выходзячы з яек, лічынкі псуюць карэньні ільну, і гэтыя новыя блошкі псуюць сьцяблы дарослага ільну. Да мер барацьбы з блошкай у першую чаргу адносяцца агракультурныя мерапрыемствы, папярэджваючыя масавае размнажэньне казюлек:

1. асеньняя глыбокая ўспашка палёў;
2. зьнішчэньне ўсіх непатрэбных межаў і сьцежак;
3. раньнія тэрміны пасеву ільну.



Мал. 1. Ільняныя блошкі.

Пры наяўнасьці ў пасевах блошак неабходна правесьці барацьбу хэмічным мэтадам. Добрыя вынікі дае апыльваньне мышшаковакіслым кальцыем (на 1 *га* 5 *кг* атруты і 15 *кг* вапны).



Мал. 2. Лён, пашкоджаны блошкай.

Акрамя мышшаковакіслага кальцыя для барацьбы з блошкамі ўжываюць парыскую зелень (0,5 *кг* на 1 *га*) у сумесі з вапнаю (1 частка атруты і 2—3 часткі вапны).

Увесну ў сырых мясцох і асабліва ў дажджлівую весну можна сустрэць на ільняных палёх бязногую лічынку шэрабруднага колеру з воркападобным патаўшчэньнем на канцы. Гэта—лічынка камарыка - доўганожкі (мал. 3). Зімуе даўганожка ў стадыі л і ч ы н к і, увесну харчуецца рознымі травамі, а са зьяўленьнем ільну нападае на яго. Падгрызаючы лён у а с н о в ы сьцябла, даўганожка зусім губіць расьліну.



Мал. 3. Даўганожка і яе лічынка.

Папераджальныя меры супроць даўганожкі—асушэньне балот і асеньняя ўспашка.

Са зьнішчальных мер барацьбы добрыя вынікі даюць атручаныя прыманкі з сьвежаскошанай канюшыны, апыленыя парыскай зеленьню ці машшаковакіслым натрам (1 частка атруты на 30 частак канюшыны).

У летні пэрыяд ільну пагражае соўка-гама. Калі яна зьяўляецца ў невялікай колькасьці, дык вялікіх спусташэньняў ня робіць. У гады-ж масавага рэспаўсюджаньня соўка-гама—небясьпечнейшы шкоднік ільну. Шкодзіць ільну не сама соўка-гама, а яе чарвячніца—зялёная, з цьмянымі палосамі, дванаццаціногая. Па гэтых прызнаках яе лёгка адрозьніць ад другіх чарвячніц. Нападае яна на

лён часьцей за ўсё ў той час, калі лён цьвіце ці завязвае галоўкі. Чарвячніца паядае лісьце, вярхавіны сьцяблоў, кветкі, галоўкі. Ад застаўшыхся голых сьцяблоў нельга атрымаць доўгае валакно, а толькі можа нікчэмную колькасьць паклі (мал. 4).

Да папераджальных мер барацьбы з чарвяніцай соўкі-гамы адносяцца: 1) раньнія тэрміны пасеву (заўважана, што соўка больш шкодзіць ільнам позьніх тэрмінаў); 2) зьнішчэньне сьмяцьцёвых траў (бо



Мал. 4. Шкоднік ільну—соўка-гама.

соўка-гама адкладвае яечкі галоўным чынам на пустазельлях); 3) пры масавым перапаўзаньні чарвячніц—заградзжальныя канавы, абараняючыя незаражаныя палі.

З хэмічных мер барацьбы рэкамэндуюць: апырскваньне хлёрбарыем (0,5 *кг* на 12 *л* вады на 1 *га*) ці парыскай зеленьню (0,5 *кг* зелені плюс 1—1,5 *кг* вапны на 1 *га*).

Добрыя вынікі дае апыльваньне мышшакова-кіслым кальцыем (на 1 *га*—5 *кг* атруты і 10—15 *кг* вапны).

Да летніх шкоднікаў ільну адносіцца лугавы матыль, які пры масавым зьяўленьні ў значнай ступені шкодзіць ільну. Папераджальныя меры барацьбы з ім: раньняя веснавая ўспашка вучастку, заражанага коканамі матыля, заграджальныя канавы супроць яго чарвячніцы і зьнішчэньне сьмяцьцёвых траў (мал. 5).



Мал. 5. Лугавы матыль.

З хэмічных мер барацьбы ўжываюць апырскваньне хлёрбарыем (400—500 *г* барыя на 12 *л* вады на 1 *га*) ці апырскваньне парыскай зеленьню (12—15 *г* зелені плюс 24—32 *г* вапны на 12 *л* вады на 1 *га*).

Алейнаму ільну паўднёвых раёнаў улетку шкодзяць галоўным чынам люцэрнавая соўка і ільняная ліставёртка (мал. 6).



Мал. 6. Пашкоджаньне галоўкі ільну.

Люцэрнавая соўка ў 1928 годзе на Паўночным Каўказе зьнішчыла да 30 проц. ільняных пасеваў. Шкодзіць галоўным чынам чарвячніца гэтай соўкі, якая зьнішчае лісьце на ільне і выгрызае галоўкі з насеньнем.

Меры барацьбы: апыльваньне мышшаковакіслым кальцыем з дабаўленьнем 3—4 частак вапны. Апыльваць неабходна, калі чарвячніца ў маладым узросьце, так як у больш позьнім узросьце чарвячніцы менш адчувальны да атруты.

Ільняная ліставёртка зьнішчае галоўным чынам насеньне ільну. Матылёк кладзе яйкі на чашалісьцікі галовак ільну. Чарвячніцы, па выхадзе з яек, укручваюцца ў галоўку ільну і жывуць там, зьнішчаючы насеньне. Перад пачаткам выхаду лялечкі чарвячніца робіць дзірачку ў сьценках галоўкі, пакідаючы звонку тонкую пленку. У галоўцы яна акукліваецца, зрабіўшы сабе шоўкавы какон. Па выхадзе з лялечкі ліставёртка вылятае з галоўкі ільну праз зробленае раней чарвячніцай вакенца.



Па характару пашкоджаньняў і раёнах распаўсюджаньня чарвячніца ільняной ліставёрткі небясьпечна галоўным чынам для алейнага ільну, для ільну-ж прадзільнага (даўгунца) яна амаль ніякага значэньня ня мае.

З прычыны захаванага парадку жыцьця ільняной ліставёрткі меры барацьбы з ёй яшчэ не распрацаваны; адзінае, што пакуль можна ўжыць—гэта апыльваньне ільну мышшаковакіслым кальцыем перад выхадам чарвяніц з яечак.

**Рытус Т.**

# Змагайцеся са шкоднікамі гародніцтва

Шкоднікі гародніцтва кожны год прыносяць вялікую страту гародніцтву. Так, напрыклад, па падліках за апошнія тры гады шкоднікі гародніцтва зьнішчалі да 50 проц. розных гародных культур. Калі-ж узяць некаторых шкоднікаў паасобку, дык гэтая лічба яшчэ значна павялічыцца. Так, напрыклад, бяляк капусьнік зьнішчыў у мінулым годзе ва многіх мясцох да 75 проц. капусты, рапсавы пілільшчык ад 75 да 100 проц. Гэтыя лічбы нам гавораць аб тым, якую вялікую страту прыносяць шкоднікі гародніцтва і чаму на зьнішчэньне іх кожны калгас і саўгас павінен зьвярнуць вялікую ўвагу. Ва ўмовах БССР больш усяго распаўсюджаны з шкоднікаў гародніцтва гародныя блошкі, бяляк капусьнік, капустажэр звычайны, рапсавы пілільшчык, капусная муха.

**Гародняя блыха**—вельмі распаўсюджаны шкоднік гародніцтва ва ўмовах БССР, які наносіць кожны год вялікую страту ўсходам турнэпсу, рэпы, рэдзькі, капусты і інш. расьлінам. Па знадворнаму выгляду гародняя блыха жучок, які мае сінюю, чорную або хвалістую з жоўтымі палоскамі афарбоўку. Зімуе жучок у глебе, пад грудкамі глебы, ці апаўшымі лісьцямі. Раньняй вясною да зьяўленьня гародніх усходаў жывіцца рознымі сьмяцьцёвымі расьлінамі.

У першай палове лета гароднія блошкі спарваюцца і самка пачынае рабіць кладку яечак групамі або паасобку на лісьця сьмяцьцёвых расьлін ці гародніх. З яечак выходзяць лічынкі, якія жывуць унутры ліста, дзе выведіся. Потым лічынка ў глебе ператвараецца ў лялечку, з якой праз тыдзень ці два, у залежнасьці ад надвор'я, выходзіць жучок. Калі на гаро-

дах зьяўляцца ўсходы гародніх культур, то гароднія блошкі нападаюць на іх і зьнішчаюць.

Усе меры барацьбы з гароднімі блошкамі зводзяцца к наступнаму: самае галоўнае зьнішчыць вясною ў гародзе пустазельле, якім-бы не змаглі жывіцца блошкі, высаджваць у грунт выключна моцную расаду капусты, якая-б не баялася пашкоджаньняў гароднай блыхі, зьбіраньне з гароду пасьля зьняцьця ўраджаю ўсіх рэштак. Акрамя гэтых папераджальных мерапрыемстваў магчыма ў часе зьяўленьня гароднай блыхі зрабіць апыленьне расьлін раніцаю, калі на расьлінах маецца раса,—тутунёвым пылам, попелам або дарожным пылам. Магчыма апыленьне расьлін рабіць парыскаю зеленьню з вапнаю. Для гэтага на 1 частку парыскай зелені трэба браць 8—10 частак сьвежа-тушанай вапны. Апыльваньне расьлін вытвараецца спэцыяльнымі машынамі апыліцелямі. Пры апыленьні парыскай зеленьню трэба памятаць, што гэта моцная атрута, якая трымае да 50 проц. мышшаковай кіслаты. Таму пасьля працы трэба добра мыць рукі з мылам.



Матыль капусьнік-бяляк.

**Бяляк капусьнік** зьяўляецца таксама распаўсюджаным шкоднікам у БССР, які наносіць вялікую страту гародніцтву. Па знадворнаму выгляду бяляк—матыль, які зьяўляецца ў канцы мая месяца. Ён мае белыя крыльлі, вяршкі якіх чорныя. Самка мае яшчэ на сярэдзіне дзьве чорныя плямачкі. Пасьля спарваньня самка капуснага беляка адкладвае яечкі на пустазельле крыжаковых расьлін, а таксама і на гароднія культуры, асабліва капусту. Яечкі маюць жоўты колер. Кладзе самка свае яечкі кучкамі да 130 штук у кожнай. Праз тыдзень, паўтара з яечак выходзяць вусені, якія жывуць у першы час разам. Жывяцца яны мякацьцю ліста. У першы час, калі яны яшчэ малыя, страта ад іх нязначная. Але з ростам іх павялічваецца і страта. Дарослая вусень распаўзаецца. Яны вельмі ў той час пражэрлівы і зьнішчаюць шмат лісьцяў расьлін. Калі вусень дасягае поўнага ўзросту, а гэта бывае ў канцы чэрвеня ці ў пачатку ліпеня, на платох, сьценах і іншых мясцох зьяўляецца лялечка. У канцы ліпеня ці ў пачатку жніўня з лялечак вылятае матыль. Матыль зноў ложыць свае яечкі, з якіх выходзіць зноў вусень і прыносіць таксама страту гароднім культурам



Капусны бяляк адкладвае яйкі на лісьце капусты.

Каб зьнішчыць капуснага беляка, патрэбна зьнішчаць у гародзе пустазельле. Гэтым самым мы зьнішчым месца кладкі яечак, а таксама і спажыву для вусеняў.

Пры зьяўленьні вусеняў трэба зрабіць апрыскваньне капусты атрутнымі матэрыяламі, як парыскай зеленьню, або джыпсінам. На 12 літраў вады трэба браць 15—17 грам парыскай зелені і 30—34 грамы сьвежатушанай вапны. Рошчына парыскай зелені робіцца наступным чынам: бярэцца шклянка або іншая пасудзіна і ў яе ўсыпаецца адважаная колькасьць парыскай зелені, дабаўляецца невялікая колькасьць вады і ўсё разам добра разьмешваецца, пакуль ня стане цеста. Цеста паступова рашчыняецца вадою. У другую пасудзіну ўсыпаецца адважаная колькасьць нятушанай вапны, якая тушыцца і разводзіцца вадою. Потым усё гэта зьліваецца і добра разьмешваецца і дабаўляецца патрэбная колькасьць вады. Такою рошчынаю магчыма рабіць апырскваньне гародніх расьлін супроць вусеня капуснага беляка. Акрамя парыскай зелені магчыма для апырскваньня ўжываць джыпсін. На 12 літраў вады трэба браць 25—30 грам джыпсіну. Джыпсін—парашок белага колеру, які зусім не рашчыняецца ў вадзе. Добрую ўласьцівасьць мае тую, што пры апырскваньні ня паліць расьлін.



Дарослая вусень капусьніка-беляка.

**Капустажэр звычайны**—матыль, які зьяўляецца ў чэрвені месяцы. Лётае ён выключна ноччу, а ўдзень сядзіць па кутках. Плодзіцца яечкамі. Самка матыля пасьля спарваньня ложыць свае яечкі ноччу на ніжнюю старонку ліста капусты. З яечак праз тыдні паўтара-два выходзіць вусень. Вусень у першы час жывіцца мякацьцю ліста, а калі завязваецца качан—уваходзіць у яго нутро і там жыве. Ад гэтага качан у большасьці загнівае. Дарослая вусень мае цёмна-зялёны колер. На сьціне праходзіць чорная палоска. У часе ўборкі вусень вывальваецца з качана і ў глебе даходзіць да лялечкі. Вясной з лялечкі вылятае матыль. Гэты шкоднік прыносіць вельмі шмат страты гародніцтву.

Меры барацьбы з капустажэрам наступныя:

Для зьнішчэньня лялечак капустажэра, з якіх-бы не змаглі выйсьці матылі, трэба вясною ўтварыць заворку гароду; у часе зьяўленьня вусеняў трэба зрабіць апырскваньне расьлін рошчынаю парыскай зелені, дзе на 12 літраў вады трэба браць 15—17 г зелені і 30—34 г сьвежа-тушанай вапны.

**Рапсавы пілільшчык** прынёс вялікую страту ў мінулым годзе гародніцтву БССР, заставіўшы шмат калгасаў без гародніны. Ён наносіць шкоду капусьце, рэдзьцы, рэпе, бручцы і іншым расьлінам. Плодзіцца рапсавы пілільшчык яечкамі. Самка пасьля спарваньня адкладвае яечкі на пустазельле крыжаковых расьлін.

Меры барацьбы з рапсавым пілільшчыкам заключаюцца ў веснавым ворыве гароду. **А. Маркавец.**

Адказныя рэдактары **С. МІЦЬКОЎ. Н. МІХАЙЛАЎ.**

Друкарня імя Сталіна Заказ № 1348 2.100 Уп. Галоўлітбелу № А 2.

